# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1967
Травень-Чэрвень

Год XV
№ 3 (102)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1967 г.:

**У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.**
**У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.**
**У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.**

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:
Mr. Antony Bielenis, 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinojs, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:
Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:
Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

У Аўстраліі:
Mr. M. Nikan, 14 Steel Str., Spotswood — Melbourne, Vic. 14, Australia.

---

**Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:**
Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XV** **May—June** **№ 3 (102)**
**1967**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE, LONDON, N. 12.
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год. XV ТРАВЕНЬ-ЧЭРВЕНЬ № 3 (102)

# Энцыкліка Папы Паўла VI-га

## «ХЛЕБ І ПОЎНАЕ ЛЮДЗКОЕ ЖЫЦЬЦЁ ДЛЯ ЎСІХ!»

26-га сакавіка, на Вялікдзень, Папа Павал VI-ы выдаў новую Энцыкліку пад назвай: **«Progressio populorum»**, г. зн. «прагрэс народаў». Дакумант гэты, хаця ў першую чаргу скіраваны да каталікоў, але зьмест ягоны адносіцца да ўсяго сьвету і Папа сапраўды зьвяртаецца да ўсіх людзей «добрай волі».

І, хаця Энцыкліка на пачатку і ў сваім працягу гаворыць аб прагрэсе народаў нашага сьвету і дае яго вельмі прыгожую і глыбока абаснаваную на Эвангельлі хрысьціянскую візію, але перад усім займаецца цяжкім палажэньнем «маладых» нацыяў.

### Зьмест Энцыклікі.

Гэта ёсьць перш за ўсё моцны і поўны глыбокага зразуменьня і адчуцьця людзкога цярпеньня кліч: **«Хлеба!»** для мільёнаў галодных, што бязьмерна мучацца ў канвульсіі, пакуль памруць у зьнемажэньні...

Гэта ёсьць заклік і дамаганьне сапраўднае, унівэрсальнае справядлівасьці між адзінкамі і народамі.

Папа прызывае ўсе багатыя народы, каб свае надмерныя даходы (заработак, ураджай), так назыв. «рэсурсы», абярнулі на «службу бедных народаў» і на «пабудову новага сьвету, у якім кожны чалавек — бяз ніякага вынятку — мог-бы жыць **поўным людзкім жыцьцём».** Гэтая думка часта паўтараецца на працягу ўсяе Энцыклікі.

Яна ёсьць адначасна паважнай перасьцярогай для ўсяго чалавецтва. Павал VI гаворыць, што цяперашняя вялізная дыспрапорцыя між багатымі і беднымі народамі ставарае небясьпеку гвалтоўнае рэакцыі церпячых, небясьпеку бунту і навароту да татальнай ідэялёгіі, як фашызм і камунізм.

«Справа датычыць — кажа Папа — супакою ў сьвеце і прышласьці цывілізацыі. Прыйшоў час, каб усе сталі ў абліччы сваёй адказнасьці за сучасны сьвет». Павал VI ёсьць сьведамы свайго абавязку выяўляць гэта. «Каб людзі пастаўленыя на становішчах пачулі нашыя словы, пакуль яшчэ ня позна».

### Хрысьціянская візія прагрэсу народаў.

Калі Папа выказаў самую праблему, дык зара падае прычыну яе, якой ёсьць няправільнасьць прагрэсу ў сьвеце. Гэта ёсьць: прагнасьць прыбытку-карысьці, калі сквапныя людзі ня лічацца зь нікім і зь нічым у гандлі і промысьле. І так невялікая група багатых загарнула бальшыню маемасьці, а тымчасам значная большасьць чалавецтва знайшлася ў умовах ніжэй узроўню людзкой годнасьці і патрэбаў.

Прытым вялізарныя капіталы марнуюцца на зброю, на шыкоўную рэпрэзэнтацыю асабістую і грамадзкую, калі ⅓ сьвету галодная. Дык трэба зьмяніць напрамак прагрэсу народаў, бо ў некаторых краях прагрэс разьвіваецца бліскавічна, а ў іншых паўзе марудным крокам, або і затрымаўся.

А мэтай разьвіцьця народаў ёсьць стварэньне такога сьвету, у якім кожны чалавек мог-бы жыць поўным людзкім жыцьцём.

З сваёй натуры людзі — роўныя і кожны мае аднолькавае права да багацьцяў зямлі: бяз гэтага немагчымы прагрэс як адзінкі, так і народу. Значыць, зямля ёсьць для ўсіх, дык асабістае права да ўласнасьці абмежвае супольнае дабро. За падставу хрысьціянскае справядлівасьці і прагрэсу Папа падаў словы Госпада Бога: «Напаўняйце зямлю і рабіце яе сабе падданай» (Кніга Роду 1, 28). Вось сама натура чалавека вымагае разьвіцьця і ў гэтым чалавек атрымлівае паўнату жыцьця фізычную і духовую, зьбліжаецца да Бога і прыймае ўдзел у радасным стварэньні і парадкаваньні сьвету — разам з Богам, сваім Нябесным Айцом.

Але паўната чалавецтва — гэта ня толькі прагрэс натуральны — на гэтай зямлі: патрэбны таксама — і яшчэ важнейшы — пра-

грэс духовага жыцьця — надпрыроднае жыцьцё, прышчэпленае нашай натуры Ісусам Хрыстом. Праз такое поўнае разьвіцьцё чалавек выходзіць з межаў сваей натуры і асягае жыцьцё трансцэдэнтальнае, якое перавышае вымогі натуральныя.

Дык вось Папа адзначае, што кожны чалавек — нават нясьведама і нат ня хочучы — у такім прагрэсе, хоць некамплетна, збліжаецца да Бога. Бо гэта стварае ў яго грунт пад разьвіцьцё далейшае пад дзеяньнем Божае ласкі, хоць прыняцьце ласкі і асягненьне Бога залежыць ад нашае вольнае волі.

У сьвятле гэтага бачым, як вялікай справай ёсьць разьвіцьцё чалавека. Тады-ж ніхто ня можа перашкаджаць чалавеку і ўсяму чалавецтву ў здаровым прагрэсе і тут неабходнае супрацоўніцтва сусьвету і толькі гэтак чалавецтва дасягае свайго прызначэньня, якім ёсьць цяперашняе і вечнае шчасьце.

Пры гэтым Папа перасьцерагае сучасны сьвет перад поступам і будовай новага жыцьця на базе матэр'ялістычнай. «Праўда — кажа — чалавек можа арганізаваць сьвет бяз Бога, але тое, што ўладзіць бяз Бога, ўканцы яму выйдзе на шкоду».

І далей кажа: «Ізаляваны (ад Бога) гуманізм ёсьць гуманізмам нягуманістычным. Мэтай цывілізацыі, зь яе цяперашняй нябывала вялікай тэхнікай, ёсьць толькі чалавек і яго ўсебаковы прагрэс паводля Божае думкі праяўлянай у натуры самога чалавека . . .

**Як Папа разумее помач для бедных народаў?**

Згодна з вышэй сказаным пра прызначэньне і годнасьць кожнага чалавека Папа дамагаецца, каб такая помач ня была абмежавана куском хлеба для галодных, пакідаючы іх у сытуацыі жабракоў. Помач павінна стварыць для гэтых народаў такія ўмовы, каб яны маглі падняцца з свайго заняпаду і самадзельна разьвівацца на фундаманце сваёй роднай культуры і багацьця свайго краю. І такая помач павінна быць зусім бескарысная, каб слабейшыя ня былі ўзалежненыя ад сільнага дабрадзея — ані палітычна, ані эканамічна, ні культурна.

Далей, помач павінна быць салідная — гуртаваць усіх людзей добрае волі з усяго сьвету, бо праца гэта — вялізарная і справа супольная. Усіх мусіць лучыць «дух братэрства, абапёртага на міласьці і справядлівасьці». Пра гэта так Папа гаворыць: «Чалавек мусіць спаткацца з чалавекам, народ з народам, як брат з сястрой, як Божыя дзеці». — «У духу ўзаемнага зразуменьня і прыязьні, у гэтай сакральнай супольнасьці, мусім разам пачынаць працу і будаваць супольную будучыню людзкога роду».

**Сродкі дапамогі — будовы новага сьвету.**

За неабходны сродак для вырашэньня гэтае праблемы Папа ўважае стварэньне міжнароднага ф о н д у.

Найперш тварылі-б яго капіталы заашчаджаныя на абмежаваньні зброі і з выдаткаў лішніх і неканечных — так індывідуальных, як і грамадзкіх.

Такі фонд спаўняў-бы таксама ролю сацыяльную — ён лучыў-бы ўсіх. Такая акцыя ў маштабе сусьветным — дзеля церпячых народаў магла-б значна прычыніцца да аслабленьня спрэчак расавых, нацыянальных і клясавых — была-б вялікім укладам у справу супакою на сьвеце.

Папа таксама закрануў праблемы раптоўнага ўзросту дэмаграфічнага. Ня ёсьць ён істотнай і адзінай прычынай цярпеньняў недаразьвітых народаў, але ён іх павялічвае і завастрае, бо прырост насельніцтва зусім не прапарцыянальны да ўзросту сродкаў утрыманьня.

Энцыкліка перасьцерагае гэтыя народы перад ужываньнем штучных сродкаў арганічэньня патомства. А самае плянаваньне колькасьці дзяцей, якое мае быць згоднае з Божым правам, пакідаецца волі бацькоў. Дзяржава толькі тады ў гэта ўваходзіць, калі трэба бараніць дабро супольнае, але і яна, як і ўсе людзі ўзятыя асобна, ёсьць залежная ад Божага права.

**Найважнейшая справа — гэта выхаваньне новага чалавека.**

Павал VI пры гэтых сродках як міжнародны фонд і іншыя, успомніўшы пра дэмаграфічную эксплёзію, паказвае яшчэ больш фундамантальны сродак — гэта выхаваньне новага чалавека. Як у народаў багатых і разьвітых, так і недаразьвітых, каб скуткоўна памагчы церпячым народам і збудаваць новы сьвет, якога вымагае цяперашняе чалавецтва — сьвет паводле Божае думкі.

Цяперашні «сьвет ёсьць хворы — кажа Папа. — Ягоная хвароба ёсьць ня так сам непрадуктыўны манапалізм сродкаў матэр'яльных . . . як нястача братэрства сярод адзінак, як і народаў».

Праз выхаваньне багатыя народы маюць навучыцца разумець і адчуваць цярпеньне бедных народаў: дзяліцца зь імі ня толькі хлебам, але асабістай, ахвярнай, фаховай по-

маччу. Дык вельмі шмат там патрэбна людзей з фаховым прыгатаваньнем. А бедныя народы маюць пазнаць сваю адказнасьць за помач і сваю дарогу сапраўднага прагрэсу. Адны і другія праз выхаваньне маюць навучыцца «весьці братэрскі дыялёг для ўзаемнага пазнаньня і супрацы».

У канцы Энцыклікі Папа Павал VI, як і ягоны папярэднік Ян XXIII, перш за усё зьвяртаецца да каталікоў і ўсіх хрысьціянаў, бо яны, маючы Эвангельле, павінны скарэй зразумець справу і першыя памагчы церпячым, а пасьля апэлюе да цэлага сьвету.

«Цэлым сэрцам вам багаслаўлю і апэлюю да ўсіх людзей добрай волі, да злучэньня ў духу братэрства!»

## НОВАЯ ЭНЦЫКЛІКА І БЕЛАРУСКІ НАРОД

Чытаючы новую Энцыкліку Папы Паўла VI-га, «Progressio populorum», насоўваюцца сумныя рэфлексыі адносна беларускага народу. Энцыкліка вельмі прыгожа і мудра гаворыць аб разьвіцьці і прагрэсе народаў, заклікае багатыя народы, каб памагалі бедным, запозьненым народам у іх усебаковым прагрэсе. Кажа, што прагрэс народу, які праводзіцца бяз Бога — ў духу матар'ялізму, ёсьць фальшывы і шкодны для таго-ж народу.

Аднак, на жаль, такі прагрэс, такі гуманізм, перад якім Папа перасьцярагае, ёсьць накінуты нашаму беларускаму народу.

І далей кажа Папа, што сапраўдны прагрэс народу павінен быць абапёрты на яго роднай культуры. А беларускі народ мае сваю старую і вельмі багатую культуру, мае сваю мову, што ўжывалася ў прыватным і дзяржаўным жыцьці і ў пісаных актах і правадаўстве. Аднак цяпер усё робіцца, каб заглушыць натуральнае разьвіцьцё нашае мовы і культуры: накідаецца беларусам чужая мова і чужая культура. Перад усім сьветам рэклямуюць Беларусь і наш народ у савецкай афарбоўцы, каб ніхто ня мог пазнаць істотнага характару нашага народу, а толькі яго карыкатуру . . . Такую крывадушную палітыку называюць «дружбаю народаў». — Адным словам, савецкая апека «старшага брата» ёсьць працягам старое тактыкі даўнейшага царскага рэжыму і прасьледу: гэта ёсьць шавінізм, культуркампф, прыгнёт і тэрор!

Павал VI-ы гаворыць, што помач бедным народам павінна быць бескарысная, каб яны маглі самастойна жыць і разьвівацца.

Беларускі народ цалкам дасьпеў да незалежнага жыцьця. Якраз у апошніх часох усьцяж адкрываюцца багатыя нетры нашае зямлі. Дык мы патрабуем ня так помачы, як спагадлівай супрацы — не настаўнікаў ці кіраўнікоў, як экспэртаў і спэцыялістаў.

Праўда, беларускі народ — праз вякі ўціску і варожае палітыкі — вырабіў у сабе характар адпорны і недаверлівы. Але як-жа прыгажэйшае і шчасьлівейшае было-б ягонае жыцьцё, калі-б яно разьвівалася ў умовах больш спрыяльных, якіх дамагаецца для кожнага народу Папа Павал VI-ы ў сваёй рашучай Энцыкліцы!

---

*а. Аляксандар Надсон*

# Лаўрын Зізані

Беларуская рэлігійная літаратура канца 16-га і пачатку 17-га стаг. ня можа пахваліцца ані багацьцем, ані асаблівымі духовымі вартасьцямі. Пісалася шмат, але ў большыні гэта былі палемічныя творы — вынік рэлігійных закалотаў, якія тады панавалі на Беларусі. Чытаючы гэтыя творы ня можна ня дзівіцца з ведаў і безсумніўнага таленту некаторых аўтараў, якія ў іншых, больш спрыяльных абставінах, маглі-б напэўна стварыць нешта больш сталае і вартаснае.

У параўнаньні з масаю палемістаў, група пісьменьнікаў, якія ўнесьлі нейкі ўклад у нашую духовую літаратуру, выглядае вельмі скромна. Сярод каталікоў цяжка знайсьці хоць-бы аднаго аўтара, прынамся такога, які-б пісаў па беларуску. Праваслаўныя ёсьць больш шчасьлівыя і могуць пахваліцца прозьвішчамі Лаўрына Зізанія, Лявона Карповіча і ерадыякана Віталія, аўтара «Дыёптры». З гэтых трох Лаўрын Зізані ёсьць найлепш ведамы, хоць не як духовы пісьменьнік, але як вучоны філёляг, аўтар «Граматыкі славянскай» і «Лексіса».

Хто быў Лаўрын Зізані з паходжаньня, цяжка сказаць. «Зізані» зьяўляецца грэцкім тлумачэньнем прозьвішча «Кукель». Украінскі вучоны М. Возьняк лічыць Лаўрына украінцам з роду Тусьцяноўскіх, што мела быць ягоным другім прозьвішчам.[1] Іншыя лічаць яго «літоўцам»,[2] або кажуць, што Зізані паходзіў з Вільні.[3] Ёсьць нават дакумант, у якім брат Лаўрына, Сьцяпан, завецца «земянином господарским повету трокского».[4] Калі аднак справа паходжаньня Зізанія і астаецца нявыесьненай, дык няма сумніву, што ягоныя творы належаць да беларускай пісьменнасьці і такім чынам укосна сьведчаць аб беларускасьці аўтара.

Лаўрын Зізані быў чалавекам вялікай асьветы на свой час. Ён добра ведаў славянскую, лацінскую і грэцкую мовы. Няведама, дзе ён здабыў гэтую асьвету. Магчыма ён вучыўся ў Астрожскай «акадэміі», гэтай маці ўсіх пазьнейшых беларускіх і ўкраінскіх праваслаўных школаў. Больш праўдападобна Лаўрын быў вучнем якой-колечы езуіцкай школы ў Польшчы, а магчыма ў Вільні. У гэтым няма нічога дзіўнага, бо ў другой палове 16-га стаг. часта здаралася, што праваслаўныя бацькі аддавалі сваіх сыноў да езуітаў, школы якіх славіліся высокім узроўнем навучаньня і перадавымі ўзгадаваўчымі мэтадамі.

У 1592 г. Лаўрын і ягоны брат Сьцяпан успамінаюцца, як настаўнікі праваслаўнай брацкай школы у Львове.[5] Непаладкі між брацтвам і праваслаўным львоўскім епіскапам Гедэонам Балабанам прывялі да таго, што многія настаўнікі паўцякалі з Львова. Сярод іх быў і Зізані, які пераехаў у Берасьце,[6] а пасьля ў Вільню.[7] Сталіца Вялікага Княства Літоўскага была тады вялікім культурным цэнтрам як для каталікоў, так і для праваслаўных. Школа, якая існавала ад 1588 г. пры праваслаўным Сьвятатроіцкім брацтве, стаяла на высокім узроўні і імкнулася стацца для праваслаўных тым, чым для каталікоў быў Віленскі унівэрсытэт. Такім чынам для Лаўрына адкрылася там шырокае поле для настаўніцкай і навуковай дзейнасьці.

У тым часе адчувалася вялікая патрэба ў падручніку старaславянскай мовы, у якой былі напісаныя праваслаўныя багаслужэбныя кнігі, але якой ужо нават шматлікія сьвятары не разумелі. Каб дапамагчы ў гэтай справе, ў 1596 г. Лаўрын Зізані піша і выдае маленькую кнігу пад назовам «Наука ку читанію і розуменію писма словенского», да якого ён далучае свой ведамы «Лексис». Крыху пазьней у тым самым годзе выходзіць


ТѵПОГРАФ
Младѣнцемъ.
Граматіка
ГРАММАТІКА
СЛОВЕНСКА.
Съставлена, Лаврентіемъ
Зізаніемъ.
Ѡ ГРАММАТІЦѢ
Что есть Грамматіка;
Толкованіе.
Колико есть частей граматіки;

*Пачатак Граматыкі Зізанія. (Здымак з паасобніка, які знайходзіцца у Бодлейскай бібліятэцы ў Оксфардзе).*

ягоная «Грамматіка словенска» — першы сапраўды сур'ёзны падручнік граматыкі старaславянскай мовы.[8] З чатырох названых ім частак граматыкі — артаграфія, празодыя,[9]

---

[1] Гл. М. Возняк, Причинки до студій над писаннями Лаврентія Зизанія. Записки Наукового Товариства імени Шевченка, Львоў 1908, т. 83, кн. 3, бб. 33—88. Глядзі бб. 31—32.

[2] Гл. Русскій Біографіческій Словарь, т. 7, Петроград 1916, б. 372, артыкул: Зизаній Лаврентій.

[3] Гл. Борис Гринченко, Огляд українськоі лексикографії, ЗНТШ, т. 66, Львоў 1905, кн. 4, бб. 1—2.

[4] Гл. артыкул Н. Алексютовича: Культурно-просветительная деятельность братиев Зизаниев, у кнізе: Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Менск 1962, б. 127. Таксама гл.: В. Ластоўскі, Гісторыя Беларускай (крыўскай) кнігі, Коўна 1926, б. 465.

[5] Гл. Акты относящіеся к исторіи Западной Россіи, т. 4, Спб. 1853, № 33, б. 43.

[6] Ібід.

[7] У Вільню таксама прыехаў брат Лаўрына, Сьцяпан, дзе ён заняўся рэлігійнай палемікай.

[8] Спробы выданьня славянскай граматыкі рабіліся раней. У 1586 вышла ў Вільні з друкарні братоў Мамонічаў «Грамматіка Словенска языка». Гэта была маленькая кніжачка (16 бач.), якая была ў сапраўднасьці першым друкаваным экзэмплярам старажытнага артыкульчыку аб васьмёх частках мовы. (Больш аб гэтым творы гл. И. В. Ягич, Изследования по русскому языку, т. I, СПб. 1885—1895, бб. 322—365 і 959). У 1591 г. вышла ў Львове «Адэльфотэс», якая была грэцкай граматыкай з паралельным славянскім тлумачэньнем (гл. аб гэтым творы артыкул К. Студзінскага, «Адэльфотэс», ЗНТШ, т. 7, Львоў 1895, бб. 1—40). Зразумела, абедзьве кнігі не надаваліся да сур'ёзнага вывучэньня славянскай мовы.

[9] Празодыя — навука аб складах і націсках. Увайшла ў славянскую граматыку пад уплывам грэцкай. Між іншым Зізані падае таксама беларускія назовы вышэй-успомненых частак граматыкі. Вось яны: правописаніе, припело, истиннословіе, сочиненіе.

этымалёгія і сынтакс, — аўтар разглядае у сваей кнізе толькі тры першыя. У канцы ён дадае «каноны» або правілы вымовы некаторых слявянскіх літараў, а таксама кароткі разьдзел «о метре», г. зн. аб тэорыі вершаскладаньня.[10] Нас цікавіць беларускі элемэнт у кнізе Зізанія, а яго ёсьць шмат ня толькі ў празаічнай і вершаваных прадмовах,[11] але ў самым тэксьце. Як добры настаўнік, Зізані тлумачыць новыя рэчы ў зразумелей для вучняў мове. Дзеля гэтага часта, даўшы нейкае правіла па славянску, ён пад ім зьмяшчаў беларускае выясьнене або, як ён кажа, «толкованіе». Ужо на першай бачынцы, у разьдзеле «О граматіце», пасьля дэфініцыі гэтай навукі па славянску:

Грамматіка ест известное вежество, еже благоглаголати и писати», аўтар адразу дае беларускае «толкованіе».

«Грамматика ест певное ведане, жебысмы добре мовили и писали».

У падобны спосаб за дэфініцыяй артаграфіі («ортографія ест веденіе писмена писати») Зізані дае наступнае «толкованіе»: «Ортографія ест первая часть грамматікі, которая нас сучит абысмо каждое писмо на его месци писали».[12]

«Лексис» зьяўляецца манумэнтальным творам Лаўрына Зізаня. Гэта быў першы сапраўдны стараславянска-беларускі слоўнік у адрозьненьне ад так званых «глёсаў» або тлумачэньняў незразумелых словаў на маргінэсах кнігаў. Слоўнік мае 1061 слова ў альфабэтычным парадку (які, аднак, не заўсёды дакладна захоўваецца). Тлумачальная, г. зн. беларуская частка «Лексіка» мае найбольшую навуковую цікавасьць. Тут спатыкаем шмат словаў, якія ўжываюцца ў беларускай мове да сяньняшняга дня (бот, вдячный, веселле, гомон, жадаю, мова, певень, перемогчи, скарб, сведчу, твар, труна, сором, хустка, час, чекаю, шкода, якость і інш.). З другога боку, словы супольныя з іншымі славянскімі мовамі тут паданы з захаваньнем беларускіх фанэтычна-марфалягічных асаблівасьцяў. Часта Зізані ўжывае энцыкляпэдычны прынцып, г. зн. дае кароткае апісаньне слова ці паняцьця, калі ня можа знайсьці адпаведнага слова ў беларускай мове, напрыклад:

мітрополія головнеишее место в яком повете.

неясыт, по грецку пелекан, птах ест в Египте, подобен бусюлови, которыи в пустыни рад мешкати, которому зміи ворогуют и дети его умерцвляют, а он прилетевши клюется в перси свои и кров испущает на них, и так оживают. Аристотел мовит в книгах где о животных пишет, трои род пелеканскіи, едины высоко, другіи середне, третіи низко летають.

сіндон, с тонкого полотна простирало албо рантух, для того так названо же напервеи в месте Сідоне почато тое робити.[13]

Такім чынам «Лексіс» і, у меншай ступені, «Граматыка» Зізанія зьяўляюцца сапраўдным скарбам для беларускіх філялёгаў.[14]

У 1597 г. Лаўрын быў прыватным настаўнікам сына князя Багдана Саламярэцкага ў Баркулабаве.[15] У 1600 г. ён выехаў на Украіну.[16] Праз некі час ён быў хатнім настаўнікам у князя Астрожскага. У 1612 г. Лаўрын атрымаў месца пратапопа Карэцкага. Там, у 1618 г., ён сказаў казаньне на пахаваньне княгіні Чартарыскай. Казаньне гэтае не адзначаецца вялікай арыгінальнасьцю і зьяў-

[10] Наагул гэтая частка ня мела вялікага практычнага значэньня, бо Зізані быў пад уплывам грэцкай тэорыі вершаскладаньня, не заўсёды прыдатнай да беларускай і славянскай моваў. Больш аб гэтым прадмеце гл. В. Н. Перетц, Историко-литературные исследования и материалы, т. I, СПб. 1900, ч. I, б. 7—12. Калі меркаваць паводля верша зьмешчаных у пачатку «Граматыкі», сам Зізані быў слабым паэтам.

[11] Адна з вершаваных прадмоваў носіць назоў «Тыпограф младенцем». Яе можна разглядаць як свайго роду рэкляму, якая мела за заданьне заахвоціць «спудеов», г. зн. вучняў, купляць кнігу. Вось ейны тэкст:

Не просто книжку называите тоую грамматіку,
але наставницу добру словенскому языку.
Научает добре писати и добре читати,
доскональм и певным быти а не в чом не партати.
Тую вы о спудеи малым коштом собе набываите,
а великого ся розуму и росторопности з ней научаите.

[12] Ёсьць яшчэ іншыя беларускія характарыстыкі граматыкі Зізанія, якія патрабуюць больш сур'ёзнага вывучэньня. Так напр. у тым, што Зізані залічае літару «з» да «сугубных», г. зн. падвойных, Уладзіміраў хоча бачыць уплыў беларускага дзеканьня (гл. П. В. Владимиров, Доктор Франциск Скорина, СПб. 1888, б. 249). Іншым цікавым фактам ёсьць тое, што ў адным з канонаў Зізані кажа, што літару «яць» (ѣ) трэба перадаваць гукам «е», а часам «я», г. зн. так як гэта рабілі беларусы. (Украінцы перадавалі гэтую літару гукам «і»).

[13] Больш аб Лексісе Зізанія гл.: М. Р. Суднік, Гісторыя ўзьнікненьня і этапы разьвіцьця беларускай лексікаграфіі старажытнай пары. Працы Інстытуту мовазнаўства АН БССР, вып. 4, Менск 1957, бб. 62—122.

[14] Сур'ёзны разгляд граматыкі Зізанія зрабіў М. Возьняк у сваім артыкуле «Граматика Лаврентія Зизанія з 1596 р.», ЗНТШ т. 101, Львоў 1911, кн. I, бб. 5—38; т. 102, 1911, кн. 2, бб. 11—87. Ён таксама перадрукаваў там «Лексіс». Возьняк, прывёўшы выказваньні іншых вучоных аб беларускасьці мовы Зізанія, сам уважае, што той пісаў на «паўночнаукраінскім дыялекце».

[15] «Року 97. Во великий пост его милость князь Богдан именем Исакий у месте Баркулабове почал учитися поруску грамоте и погрецку, а был бокаларем пан Лаврентий Зизаний, человек навченый, з места Виленского прибавленый». Баркулабаўскі Летапіс, выд. М. Доўнар-Запольскага, Университетские Известия, № 12, Кіеў 1898, Прибавление, б. 20.

[16] АЗР, т. 4, № 154, б. 241.

ляецца насьледваньнем падобных твораў віленскіх езуітаў.[17]

У 1619 г. мы бачым Лаўрына ў Кіеве, дзе ён прыймае удзел у працах вучонага гуртка Плеценецкага.

У 1626—27 г. мела месца ведемая паездка Лаўрына ў Маскву і ягоная спроба выдаць там свой «Каціхізіс». Справа ў тым, што ў тым часе праваслаўныя ня мелі ніводнага падручніка, з якога маглі-б навучыцца праўдаў сваей веры. Такі падручнік пастанавіў стварыць Зізані, пішучы свой «Каціхізіс». Гэта быў першы твор свайго роду. Зізані ня меў ніякіх праваслаўных узораў і таму быў змушаны карыстацца з пратэстанцкіх і каталіцкіх крыніцаў. Уплыў каталіцкага «Рымскага Катэхізму» відавочны, асабліва ў месцах, дзе гаворыцца аб стане душаў пасьля сьмерці, мамэнце пeратварэньня хлеба і віна ў Цела і Кроў Хрыста ў часе сьв. Літургіі, аб тайне сужэнства і інш.[18] У тым часе на Беларусі і Украіне панавала пэўнае зацішша паміж праваслаўнымі і каталікамі. Абодва бакі шчыра шукалі пагадненьня, да якога аднак не дайшло. Была ўстрыманая на некі час усякая палеміка і відаць праваслаўныя ўлады, каб не ўзнавіць забурэньня, баяліся выдаць нават такі непалемічны твор, як «Каціхізіс» Зізанія. Гэты апошні аднак хацеў паставіць на сваім і вясной 1626 г. выбраўся з сынам у Маскву. Там яго прынялі ветліва, але да ягонага «Каціхізісу» паставіліся асьцярожна. Наагул у Маскве адносіліся з вялікім падозраньнем да братоў па веры з Беларусі і Украіны, і былі нават выпадкі, калі іх там нанова перахрышчывалі. Маскоўскі патрыярх дазволіў друкаваць «Каціхізіс», але перад тым, чым даць дазвол на распаўсюджаньне, ён вызначыў камісію, якая мела праверыць і, дзе трэба, паправіць памылкі. Да нас дайшоў пратакол паседжаньняў гэтай камісіі.[19] У пратаколе нямала пацешных эпізодаў. Зізані стаяў, і лічыў сябе, інтэлектуальна вышэй за сваіх «цэнзараў». Ён хацеў выкарыстаць маскоўскія царкоўныя ўлады, каб іхнім коштам выдаць свой твор. Дзеля гэтага ён нават дыпляматычна заявіў, што аддаецца поўнасьцю на суд маскоўскага патрыярха. У сапраўднасьці-ж ён не жадаў уступіць ні на крок з свайго пункту гледжаньня. Калі-ж ён ня мог адбіцца ад закідаў камісіі, дык выкручваўся тым, што ягоную думку перакруціў маскоўскі перакладчык, які тлумачыў ягоную кнігу з мовы «літоўскай», г. зн. беларускай,[20] на царкоўнаславянскую. Пры такіх абставінах не магло быць гутаркі аб якім-колечы паразумленьні. Катэхіз, хоць і надрукаваны, астаўся нераспаўсюджаным і амаль няведамым аж да другой паловы 18-га стаг., калі ён быў зноў надрукаваны ў Горадні старaверамі.

Вясною 1627 г. Лаўрын вярнуўся з сваей няўдачнай маскоўскай паездкі. У 1628 г. ён браў удзел у Саборы ў Кіеве і быў адным з аўтараў абвінавачваньняў супроць Мялеція Сматрыцкага, які ў тым часе стаўся каталіком. Ён быў яшчэ жывы ў 1633 годзе.

Лаўрын Зізані быў верным сынам Праваслаўнай Царквы. У адзін з найбольш крытычных мамэнтаў у гісторыі гэтай Царквы на Беларусі, ён, замест займацца спорамі, парупіўся, каб залажыць лепшыя асновы на будучыню цераз павышэньне узроўню асьветы маладога пакаленьня. Робячы гэта, Зізані ўнёс адначасова паважны ўклад у галіну беларускага мовазнаўства.

Зізані быў таксама добрым сьвятаром, які стараўся паглыбляць сваё духовае жыцьцё і памагчы ў гэтым іншым. Перадрукаванае ніжэй ягонае размышляньне над Малітвай Гасподняй было замешчанае ў канцы «Граматыкі Славянскай». Дасьледчыкі знойдуць у ім уплыў польскіх пісьменьнікаў — католіка Бялабжэскага і кальвініста Гілеўскага.[21] Ня гледзячы на гэта, разьмышляньне — або, як называе яго аўтар, «толкованіе», — астаецца арыгінальным творам, які гаворыць шмат аб духовасьці аўтара. За выняткам аднаго малога і нязначнага сказу, у ім няма нічога такога, што-б магло задзець нечыя рэлігійныя пачуцьці. З другога боку, не адзін праваслаўны і каталік напэўна яшчэ сяньня прачытае з прыемнасьцю гэты маленькі твор, які ёсьць варты таго, каб заняць сваё скромнае месца сярод помнікаў беларускай духовай літаратуры.[22]

---

[17] Тэкст казаньня гл. М. Возняк, Причинки...

[18] Дакладны разбор «Каціхізісу» зрабіў Ф. Ільінскі ў сваім творы «Большой Катехизис Лаврентия Зизания», Труды Киевской духовной Академии, № 2, 5, 6, 8, 10, 1898; № 3, 1899. Твор выйшаў таксама асобнай кнігай у 1899 г.

[19] Тэкст пратаколу выданы друкам пад загалоўкам «Заседание в книжной палате 18 февраля 1627 г. по поводу ‚Катехизиса' Лаврентия Зизания», СПб. 1878.

[20] Лаўрын Зізані ўжываў словы «Літва, літоўскі» ў значэньні «Беларусь, беларускі». Ужо ў назове самога «Каціхізісу» кажацца: «Катехизис, по литовску оглашеніе...». Цікава, што брат Лаўрына, Сьцяпан, называе мову свайго палемічнага твору «Казаньне святого Кирилла» (выд. у Вільні ў 1595 г.) беларускай.

[21] Дакладны разбор твору гл. Возняк, Грамматика... ЗНТШ, т. 102. Львоў 1911, бб. 36—46

[22] «Толкованіе» перадрукоўваецца з арыгінальнага выданьня, адзін паасобнік якога знаходзіцца ў Бадлейскай бібліятэцы ў Оксфордзе. Мова аўтара захоўваецца поўнасьцю, хоць нажаль ня было магчымасьці перадаць ягонага правапісу, асабліва галосных.

*Л. Зізані*

# ТОЛКОВАНІЕ

## МОЛІТВЫ КОТОРОИ НАУЧИЛ ГОСПОДЬ ІСУС ХРИСТОС ОУЧЕНИКОВ СВОИХ

*(Составлено, Л. З.)*

Первая точка.

*Отче наш, іже еси на небесех.*

В той точце замыкается 5 речій.

Першая кгды мовимо отче. Тымся оупевняемо же будемо выслуханы, поневаж отца просимо. Другая в темже слове замыкается иж пристоит быти сынови таким, якій его отец небесный, тоест милосеррдным благоподатливым добродетельным, абыся не оказал негодным такового сродства. А третя реч кгды мовимо наш, тое значит иж есмо все братя. Прото не о самом собе пристоит молитися Богу и старатися, але и о братіях. А четвертая реч в томже слове наш замыкается, иж все маемо един заровно и тоиже титул и шляхетство небесное. Пристоит теды абы едины над других не подносилися, ане о собе болше розумели, так королеве и панове над подручных своих, так богатыи над убогих, як тыжи мудріи и ученыя в писме над простаков.

А пятая реч, кгды мовимо іже еси на небесех, значит маемо часу молитвы на небо розум и мысли свои взносити, то ест о небесных речах мыслити.

2. *Да святится имя твое.*

Тут о едину реч просимо, абы нам дал живот побожны, которимбыся в нас святило имя его.

3. *Да прідет царствіе твое.*

Тут о три речи просимо. О першую, абы евангельская проповедь побеждала все еретическія плевела и их самомненыи вымыслы. А другую, абы ся сила божая воцарила в нас, а злость бы была выкоренена, то ест абы грех не пановал в нашим теле. А о третюю, абы рихло пришло царство его, тоест абы нас не атдалил от царства сваего.

Тут ся мы научаемо перебачати королевства и панства тогосветніи, и богатства нестальія, просячы и жадаючи о вечныи и нетленныи заплаты. Которыи то заплаты на мь сли маючи богатыи и преложеныи не могут ся гордити, а убогіи и подданыи маются чим тешити иж и они в царстве небесном мают быти.

4. *Да будет воля твоя яко ня небеси и ни земли.*

О две речи тут просимо. О едну абы нам дал Бог ведле воли своей все добродетели чинити, и як он хочет все охотне а досконале отправовати, як и святыи аггелы его на небе з веселям ему служат. А о другую абы нетылко в нас самых, але и по всем свете воля его святая выполнялася, а лесть еретическая и злость греховная абы была до конца выкоренена. Тут ся научаемо, иж не так за нашим стараньем што доброе стается, як далеко болше за помочу божею а за ласкою его святою все доброе чинимо.

5. *Хлеб наш насушныи дажд нам днесь.*

Тут просимо о хлеб двояки, взглядом того же тыж и человек ест двояцкіи, тоест от душе и от тела. О телесном тогды хлебе мыслячы просимо о три речи. О першую когды мовимо



*Апошняя бачына Граматыкі Зізанія (разьдзел О Метре) і пачатак «Толкованія».*

о хлебе прикладаючи и насушны, тоест которі приличны нашему существу, жадаемо нетолко о самым хлебе але и о все телу нуждныи потребы. А о другую просимо абы нам дал хлеб наш а не чужіи, тоест з своеи праце живитися, а не з людского добра. А о третюю абы ныне дал а не завтра.

Тоут нас учит Христос избавитель наш, абысмося молили не о панства тогосветніи, а не о жадныи преложенства, а не тыж о не-

сталое богатство мезерного света того, але толко о хлеб без которогося не можем обыти, и то жебысмы непрожне или, але в поте лица нашего. Не кажет тыж ся нам распростирати на том свете много лет собе обецуючи жити, але толко поки нынешнiи день ест и што на тепер потреба о тое кажет просити а не болше, абысмы старанем завтрашним и печалми житеискими розуму нашего не потлумили, и любве противко Бога не нарушили.

О духовном зась хлебе мыслячи, тоест о слове божем, просимо абы нам дал хлеб наш, тоест науки нашеи християнскои слухати, ане еретических вымыслов, ане поганских наук, кгдыж и они кормятся, але не своим хлебом, ане словом божiим, але прелестю шатанскою. Бо як тело от того хлеба насущного кормится и посилок берет, так власне душа словом божiим кормится и вмоцняется. Просимо тыж тут о хлеб насущны, о покарм тот который ест з нашего существа, о пречистое и животворящее тело и кров христову, абы нам дал годне его прiмовати, не на осуженiе, але на збавленiе. О наш животворяшчiи хлеб просимо, а не о суптелно змышленыи оплаток.

6. *И остави нам долги наша, яко и мы оставляем должником нашим.*

Тоут о едину реч Бога милосердного просимо, аби нам грехи наше отпустил, которыи оуже окрестившися пополнилисмо, бо першiи все грехи которiи пред крещенiем мел человек, крещенiем омыты бывают. Припоминаемо тыж тоут Богу мовячи, як мы отпущаемо должником своим, которiи много крот против нас выступают, так и ты нам отпусти. Долги тогды тут не инше што маемо розумети тылко грехи, тоест выступки. Научаемося тут иж неедного человека немаш на свете без греха. Научаемотыжся иж Бог барзо милосердны ест, которiи кающихся и наигрешнеиших прiимет. Научамотыжся иж Он справедливым будучи, немилосердным и злопамятельным, а не каючимся выступков их не атпустит.

7. *И не введи нас во искушенiе, но избави нас от лукавого.*

Тоут о две речи просимо, о едну абы нас не вводил в покушенье, тоест абы нам не дал зведеным быти покусами шатанскими и розмаитыми бедами, которыи препущает на нас для пробы. А о другую реч просимо, абы нас выбавил от злого ворога нашего шатана, которыи нас хочет потлумити в тых искушенiях. Як Апостол Павел к римляном пишет, в главе 5, иж искушенiе чинит оупованiе, а оупованiе не посрамiт. але зле в искушенiях изнемогати и оупадати. Протож тыми словами и избави нас от лукавого незгола о тое просимо, абыхмо волни были от искушени, але абы нам будучим в них Бог помогал, а от шатана и тела и мира нас боронил. Тыи бовем суть ворогове наше: плоть мир и диавол. Як пишет святыи апостол Павел к галатом в главе 5 иж плоть воюет на дух. А о сатане святые апостол Петр пишет, в первом посланiи, в главе 5: будте трезвы, бо неприятель ваш дiявол як лев рикаючи кружает кого пожерти. А о мире пишет Iоан Богослов, в першом листе своем, в главе 5 иж увес свет в злости ест. Потреба нам ведати о искушенiи иж Бог не искушает некого, як апостол Яков пишет, в главе I: Бог не искушает некого, але кождый искушается от своеи плоти влеком и прелщаем. А дiавол ест власны искуситель, а иж без допущеня и дозволеня божого нечого не может, як маемо приклад Iова праведного, которому аж от Бога взявши попущенiе зашкодил, прото Богу приписуется ввожене в напасть не ижбы Бог оуводил, але иж дiяволу уводити допущает. Также тыж и тело к искушенiю нас приводит. Для тогож просимо Бога, абы нас не вводил в искушенiе, тоест абы нам дал Духа Святого которiибы похотем тел наших отпирал. Тоеж маемо розумети о искушенiи того света. Тот бовем нас покушает, кгды нас албо через роскоши от Бога отводит, албо через трудности которiи нам задае отстрашает. Еднакоже мы и тое покушене причитаемо Богу, бо и мир нечого нам не может оучинити над волю божiю. Щасливыиж тыи которыи годне мовят тую молитву, тоест которыи просячи Бога о оборону абы в искушенiя не впадали, самися в покусы не впадают.

Амин, есть реченiе евреиское, выкладается на наш язык двояко, нехай так буде и заправды так ест.

Прiимете друзи мои возлюбленнiи вдячне тую мою малую працу, а о болшеи самися постараите, инших и мене оувеселяите.

*Я. Надсон*

# У Сьвятой Зямлі

*«Усьцешыўся я, калі мне сказалі:*
*Хадзем да дому Гасподняга!*
*Вось нашы стопы стаяць*
*у варотах тваіх, Ерусаліме».*

(Пс. 121, 1—2)

З гэтай малітвай на вуснах невялікая група беларускіх пільгрымаў вылецела ў Вялікодную нядзелю 27-га сакавіка з Лёндану ў Сьвятую Зямлю. Было нас усіх 11 чалавек, як праваслаўных на чале з а. Я. Абабуркам, так і каталікоў разам з а. А. Надсонам і а. Р. Тамушанскім.

Самалёт вылецеў з Лёндану ў 11 гадз. вечарам і ў наступны дзень раніцай мы ўжо былі ў Аммане. Сталіца Ярдану спаткала нас досыць няпрыветна. Замест спадзяванага сонца і цяпла там быў холад і сьнег, — рэч нябывалая, якой не памятаюць нават найстарэйшыя людзі! Прышлося чакаць на лётнішчы, пакуль прыедуць па нас з Ерусаліму самаходы па пакрытых сьнегам і ільдом горскіх дарогах. Мы скарысталі з гэтай прымусовай затрымкі, каб навязаць першыя знаёмствы з мясцовымі жыхарамі. Сярод іх хіба найбольш цікавым быў малады, бо толькі 21-гадовы, лейтэнант Ярданскай паліцыі, найвялікшай марай якога ёсьць ехаць у Італію вывучаць мастацтва. На памятку ён нарысаваў і падарыў партрэт наймалодшаму сябру нашай групы, Міколу Смалю.

Наканец прыехалі нашы таксі (таксі — найбольш пашыраны і танны сродак транспарту ў Ярдане) і мы паехалі ў Ерусалім, адлеглы 90 кілямэтраў ад Амману. Надвор'е крыху выпагадзілася. Дарога йшла цераз горы. Паабапал яе мы часта бачылі палаткі бэдуінаў, недалёка якіх стады вярблюдаў і авечак скублі бедную траўку сярод скалаў. Мёртвае Мора, каля якога мы затрымаліся, спаткала нас нявыноснай гарачынёй (яно ляжыць амаль 400 мэтраў ніжэй узроўню мора) і мярцьвечай навакольнай пустыні. Далей пачаліся Юдэйскія горы (ня ведаю, чаму іх называюць узгоркамі) поўныя дзікай красы. На найвышэйшым месцы іх, у палове дарогі між Ерыхонам і Ерусалімам, стаяла некалі карчма. Яна была добра ведамая ўсім падарожнікам, бо гэта было адзінае месца у ўсёй аколіцы, дзе можна было дастаць ваду. Гэтую карчму меў Хрыстос на ўвеце ў сваей прыповесьці аб добрым самарытаніне (Лк. 10, 30—37). Калі глянуць на навакольны дзікі краявід, дык няма чаго дзівіцца, што раней тут магла быць шмат разбойнікаў. Цяпер на месцы карчмы знаходзіцца станцыя паліцыі.

Урэшце мы наблізіліся да Сьвятога Гораду. Ехалі па дарозе з Бэтаніі, тэй дарозе, па якой Хрыстос уяжджаў трыумфальна ў Ерусалім у Пальмовую Нядзелю. Направа ўзвышалася Аліўкавая Гара, крыху далей — Гетсіманскі сад; перад намі разлеглася Даліна Кедронская (або Даліна Язапата, дзе, паводле традыцыі, мы ўсе павінны будзем некалі сабрацца на Апошні Суд), а за ёй высіліся магутныя муры старога Ерусаліму. Першае ўражаньне — найбольш моцнае і незабыўнае.



*Беларуская Пільгрымка у Бэтлееме.*

Прыехалі мы ў наш гатэль досыць позна і, будучы змучанымі, пастанавілі правесьці свабодна рэшту дня. Некаторыя асталіся ў сваіх пакоях адпачываць. Іншыя пайшлі пазнаёміцца з горадам. Пад вечар у нашай групе паявілася ўжо некалькі «арабаў» у бурнусах...

У наступны дзень — аўторак — раніцай едзем у Бэтлеем. Дарога зноў ідзе праз залітыя сонцам цудоўныя Юдэйскія горы. Хутка на вяршыні гары перад намі закрасаваў прыгожы белы гарадок. Гэта — Бэтлеем. Прыяжджаем да царквы Нараджэньня Хрыстовага, якая стаіць на месцы старой карчмы. Зьверху — праваслаўная грэцкая царква; пад ёй — пячора, якая некалі служыла стайняй і ў якой нарадзіўся Збавіцель. Цяпер зорка пад аўтаром адзначае месца Нараджэньня. Незабыўная хвіліна, у многіх з нас сьлёзы ў вачах, калі кленчым і цалуем гэтае сьвятое месца. Пасьля стаем крыху воддаль цэлай групай. Айцец Абабурка чытае Евангельле (Лк. 2, 1-20), пасьля ціха сьпяваем трапар «Рождзество Твае». Гэта між іншым мы рабілі у ўсіх іншых сьвятых месцах: адзін з сьвятароў чытаў адпаведні ўрывак Евангельля, а пасьля ўсе сьпявалі трапар або гаварылі «Ойча Наш».

Поле каля Бэтлеему, дзе ангелы аб'явілі пастушком нараджэньне Хрыста, бадай не зьмянілася за дзьве тысячы гадоў. Цяпер, як і тады, там пасуцца авечкі, а за імі ходзяць пастушкі, мусіць нават таксама апранутыя. На ўзгорку пры пячорах, якія служылі сховішчам для пастушкоў, цяпер стаіць манастыр і царква аа. францысканцаў.

Пасьля абеду ў той самы дзень ідзем у стары Ерусалім. Найперш затрымоўваемся там, дзе некалі была жыдоўская сьвятыня. Цяпер тут стаіць музулманскі мэчэт — цудоўны помнік арабскага мастацтва. Называецца ён «Купал над скалой», бо збудованы ён, паводле традыцыі, над скалой, дзе некалі Абрам прынёс у ахвяру Богу свайго сына Ісаака (Быцьце, 22, 1-14). Увайходзім у сярэдзіну, скідаючы чаравікі. Больш чым прыгожасьць архітэктуры, на нас робіць уражаньне пабожнасьць музулманаў: нам, хрысьціянам, ёсьць часам што ад іх павучыцца.

Сьцяна плачу — адзінае, што асталося ад жыдоўскай сьвятыні, збудаванай Гэрадам. Сюды раней прыходзілі жыды, каб плакаць над стратай сьвятыні і сьвятарства. Цяпер каля яе пуста. Сьцяна стаіць сама — нямы сьведка няшчаснага палітычнага падзелу Сьвятой Зямлі.

Выходзім за муры старога гораду і ідзем да царквы сьв. Пятра «Гальліканту» (г. зн. сьпеў пеўня), збудаванай там, дзе некалі стаяў дом жыдоўскага першасьвятара Каяфы. Жыды, схапіўшы Хрыста ў Гетсіманскім садзе, прывялі Яго сюды. Тут сьв. Пётр адрокся тройчы свайго Настаўніка (гл. Мт. 57-75). Адтуль і такі цікавы назоў царквы. Належыць царква каталіцкім манахам асумцыяністам. Добры айцец завёў нас у падземныя лёхі, якія служылі за вязьніцу і дзе напэўна жыды трымалі Хрыста перад тым, чым завесьці Яго да Пілата.

Нашым настуным прыпынкам быў Гетсіманскі сад, куды Ісус прыйшоў памаліцца пасьля Апошняй Вячэры. Францысканскія манахі даглядаюць старыя пакручаныя аліўкавыя дрэвы, пад якімі некалі панылі (заснулі) апосталы Пётр, Ян і Якаў у тым часе як Хрыстос, адыйшоўшы крыху убок, маліўся: «Айцец мой! Калі магчыма, няхай абміне Мяне гэтая чаша; аднак не як Я хачу, але як Ты!» (Мт. 26, 39). Цяпер над скалой, на якой, паводле традыцыі, маліўся Хрыстос, збудована царква, якая завецца «Царквой усіх народаў». Наканец у Гетсіманскім Садзе Юда выдаў свайго Настаўніка, сказаўшы тым, што прыйшлі з ім: «Каго пацалую, той і ёсьць; бярыце Яго» (Мт. 26, 48).

Побач з Гетсіманскім Садам стаіць грэцкая праваслаўная царква Усьпеньня на месцы, дзе была пахаваная Багародзіца.

Апошняй нашай мэтай ў той дзень была Аліўкавая Гара. Па дарозе затрымоўваемся ў манастыры сясьцёр кармэлітанак «Ойча Наш». Тут на сьценах царквы і на панадворку знаходзяцца тэксты Малітвы Гасподняй у 47 мовах. Нажаль не знайходзім сярод іх беларускага тэксту . . .

Але вось мы на Аліўкавай Гары, на месцы, дзе Госпад Ісус Хрыстос, 40 дзён пасьля свайго зьмёртвыхустаньня, узнёсься на неба. Цяпер тут стаіць малая каплічка, якая знайходзіцца ў прыватных музулманскіх руках. Увайходзім у яе. На падлозе сярод каплічкі ёсьць адгароджанае месца, з якога выглядае кусок скалы, а на гэтай скале — сьлед. Гэта, паводле традыцыі, сьлед стапы Госпада Ісуса Хрыста. Затрымоўваемся ў каплічцы даўжэй. Айцец Абабурка служыць малебен за ўсіх пільгрымаў, іхнюю радню і за ўвесь Беларускі народ.

У сераду раніцай мы пачалі дзень сьв. Літургіяй у царкве сьв. Анны. Служылі а. Надсон і а. Тамушанскі. Збудованая крыжоўцамі у 11 стаг. царква сьв. Анны стаіць на месцы, дзе паводле традыцыі быў дом бацькоў Багародзіцы і дзе Яна сама нарадзілася. Побач з царквою знайходзіцца Авечая купеля (Бэтэсда), каля якой Хрыстос аздаравіў расслабленага (Ян 5, 1-16).

З царквы выходзім на вуліцу, якая завецца «дарогай крыжовай», або «дарогай цярпеньня». Па ёй ішоў некалі Хрыстос з Прэторыі да Гальготы, нясучы крыж. Пад манастырам сясьцёр Сыёнскіх бачым кусок арыгінальнага двору прэторыі і дарогі, па якой напэўна ступаў Збавіцель. Далей наша дарога ідзе вузкімі вулічкамі, поўнымі шуму і крыку. Наканец падыходзім да самага сьвятога для кожнага хрысьціяніна месца — царквы Гробу Хрыстовага, або, як яе называюць грэкі, царквы Зьмёртвыхустаньня. Сяньняшні пільгрым дарма будзе старацца адтварыць у сваім уяўленьні ўзгорак Гальготы, сад вакол яго і нававысечаны гроб. Пабожнасьць вякоў пакрыла ўсе гэтыя месцы адной вялізнай царквой. Цяперашняя царква, збудаваная крыжоўцамі ў 11-тым стагодзьдзі і папсаваная пазь-

нейшымі пераробкамі і дадаткамі, зьяўляецца расчараваньнем для тых, якія прыходзяць сюды шукаць некай мастацкай прыгожасьці. Можа гэта так і лепш: такім чынам нішто не адцягвае ўвагі пільгрыма ад сьвятасьці месца. А сьвятасьць адчуваецца тут вельмі моцна. Гальгота знаходзіцца у ўсходняй частцы царквы і стаіць вышэй, чым рэшта будынку. Месца, дзе стаяў крыж Гасподні, знаходзіцца пад аўтаром, які ёсьць у апецы грэцкіх праваслаўных манахаў. Вакол сьвятога месца заўсёды натоўп, як мусіць было і ў той страшны час, калі Збавіцель вісеў на крыжы. Рэакцыі людзей мусіць таксама падобныя: адны плачуць і моляцца, падыходзячы на каленях да крыжовага месца і цалуючы яго; другія праходзяць міма і глядзяць на ўсё з адарванай цікавасьцю, або зусім абыякава; яшчэ іншыя усьміхаюцца, «ківаючы галавамі» (Мт. 27, 39).



*Перад Гробам Хрыстовым.*

Пакланіўшыся сьвятому месцу на Гальгоце, мы ідзем уніз да Гробу Гасподняга. Па дарозе затрымоўваемся каля месца, дзе, паводле традыцыі, Язэп Арыматэйскі палажыў цела Хрыста, зьняўшы Яго з крыжа, каб перад пахаваньнем памазаць алеямі і абвіць плашчаніцаю.

Гроб Хрыстовы ёсьць вельмі цесны і ў яго ня можа ўвайсьці адразу больш чым пяць чалавек. Увайходзім па чарзе і прыкладваемся вуснамі да вылажанага мармурам месца, дзе ляжала цела Хрыста. Пасьля, глыбока ўзрушаныя, затрымоўваемся ў капліцы Марыі Магдалены, каб прачытаць Евангельле і памаліцца. Ціха вяртаемся ў свой гатэль. Гэтага дня напэўна ніхто з нас не забудзе!

Чацьвер — апошні дзень нашай пільгрымкі. Раніцай прыяжджаюць таксі, каб забраць нас на лётнішча ў Амман. Па дарозе затрымоўваемся ў Бэтаніі, дзе ў царкве збудованай на месцы дому Марыі і Марты, слухаем сьв. Літургію. Аглядаем таксама гроб Лазара. Наступная наша затрымка ў Ерыхоне. Вялікае ўражаньне робіць пустыня вакол Ерыхону, у якой некалі жыў сьв. Ян Хрысьціцель і пасьціў 40 дзён Хрыстос. У параўнаньні з пустыняй, Ерыхон з сваім пышным трапікальным жыцьцём выглядае зямным раем. Далёка віднеецца гара, на якую чорт занёс Хрыста, каб Яго спакушаць (Мт. 4, 8-10). Кантраст між мярцьвечай пустыні і надзвычайным багацьцем жыцьця ў Ерыхоне рабіў вельмі рэальнай спакусу: «Усё гэтае дам табе, калі ўпаўшы паклонішся мне».

Наш апошні прыпынак — рака Ярдан, месца хросту Госпада Нашага Ісуса Хрыста (Мт. 3, 1-17). Умываем твары ў вадзе сьвятой ракі. Апошнім позіркам жагнаемся з Сьвятой Зямлёй. Цяпер нашы таксі вязуць нас проста ў Амман, дзе сядаем на самалёт, каб вечарам таго самага дня апынуцца ў халодным і дажджлівым Лёндане.

Мэтай нашай кароткай пільгрымкі было пакланіцца тым месцам, дзе нарадзіўся, навучаў і памёр за нас Госпад Наш Ісус Хрыстос. Мы хадзілі ўсюды з Евангальлем у руцэ і Евангельле чытанае на месцы набірала для нас зусім іншага, глыбейшага значэньня. Усе мы вярнуліся ўзбагачаныя духовымі перажываньнямі, якія астануцца на ўсё жыцьцё. Мы адчувалі, быццам мы ішлі па сьлядах Збавіцеля.

# Беларуская гравюра ў дрэве
## (XVI ст.)

Між рознымі рэчамі, якія належалі да абсталяваньня сьвятыні, годнымі ўвагі былі два стаўбы, Яхін і Ваоз, якія стаялі пры ейным уваходзе. Яны былі зробленыя з жоўтай медзі і ўпрыгожаныя рашоткавым узорам лілііі і гранатамі. (III Царств. 7, 15-22). Пасьля Навуходанозар, узяўшы Ерусалім, забраў іх у Бабілён. (IV Царств. 25, 13). Скарына ў сваей сэрыі ілюстрацыяў абстаўляваньня святыні ўключае таксама і стаўбы, і хоць гэты ягоны твор не адзначаецца нічым надзвычайным, ён не ўступае гравюры Вольгэмута на тую самую тэму.



ВЗОРЪ ДВꙊ СТОЛПОВЪ ИЖЕ ПРЕДЪ ХРАМОМЪ



Сцэна з кнігі Рут, дзе тая зьбірае каласы на полі Ваоза, зьяўляецца аднэй з найбольш удалых і чароўных гравюраў Скарыны. (Рут 2, 1-18). На фоне ўзгоркаў, дрэваў і далёкай вёскі жняцы працуюць у поце чала, а Рут зьбірае каласы пад добразычлівым паглядам Ваоза. Выдатна створана ўражаньне нівы, а каласы як праўдзівыя схіляюцца ў жменях работнікаў. Рысы твараў і позы людзей адданы рэалістычна і ў цэлай гравюры адчуваецца раўнавага між полем, бачаным у пэрспэктыве ў хворме трыкутніка, і пяцю людзкімі хвігурамі разьмешчанымі ў падобным парадку.

Ня ўсе гравюры Скарыны дасягаюць такога высокага ўзроўню, як ягонае памазаньне Давіда або Юдыт з галавой Галаферна (Гл. Б. Ш. 89, 92). Зацікаўлены ў жыцьці і руху, Скарына не знайшоў вялікага натхненьня для сваей творчасьці ў кнізе Мудрасьці Ісуса бэн-Сіраха. Гравюра прадстаўляе кніжніка, магчыма самога бэн-Сіраха, які, паводле ўступу да ягонай кнігі, «правёўшы шмат часу ў вывучэньні Закону і Прарокаў... пастанавіў сам напісаць нешта на тэмы, якія маюць дачыненьне з асьветай і мудрасьцю». Перад ягоным сталом стаяць мудрацы, занятыя спорам аб нейкіх цёмных пунктах жыдоўскага этычнага вучэньня. У гравюры не хапае вобразнасьці і жыцьця іншых твораў Скарыны, але ў далікатным адданьні вопраткі і рысаў аблічча адчуваецца зноў рука Майстра.

*Г. П.*



# Сьв. памяці а. Язэп Дашута

У дапаўненьне таго, што мы пісалі аб ім у № 5 (98) 1966 г., прыбылі новыя інфармацыі, якія замешчаем для сучасьнікаў і для нашае гісторыі аб гэтым Дастойным памяці Чалавеку.

У 1949 г. пачалі яго мучыць першыя сымптомы хваробы завалаў сэрца, ад чаго ўканцы і памёр 9. IX. 1966. ў гор. Влоцлавэк. Пахаваньне адбылося 9-га верасьня ў Варшаве: Сьв. Літургію адправіў а. Правінцыял Лявон Шэлюк, а казаньне сказаў а. Віцэправінцыял Антон Лось (наш даўн. выхаванак з Друі). Пахаваны на марыянскім магільніку ў Вавжышэве.

Сьв. Пам. а. Я. Дашута вельмі любіў літургію і літургічныя сьпевы; ахвотна абучаў мо-



*Апошнія дні а. Язэпа Дашуты, Марыяніна.*

ладзь і кіраваў хорам. Маемо надзею, што анёлы адразу прынялі яго ў свой нябесны хор на векі вечныя.

Расказываюць аб ім клерыкі-студэнты, якія даглядалі хворага — Г. Надроўскі і дыякан Ант. Папужынскі.

Асаблівы ўплыў на а. Душуту зрабілі Арцыбіскуп Юры Матулевіч — у духу законным і кс. Улад. Карніловіч — у жыцьці літургічным.

А. Я. Дашута быў заусёды поўны рухавасьці і вясёласьці аж да самае апошняе гадзіны! Асабліва, калі было магчыма зрабіць каму штосьці добрае, карыснае і прыемнае, забываючыся аб сабе. Наагул ня любіў гаманіць аб сабе: заўсёды праводзіў ідэі агульнацаркоўныя і практычна грамадзкія, не запускаючыся ў спэкуляцыю і палітыку. Сам стараўся жыць паводле вымогаў Царквы і ў гэтым духу выхоўваў маладых студэнтаў-клерыкаў, якіх доўгі час у апошніх гадох быў духоўным айцом і спавядніком. Усьцяж паглыбляў сваю духоўную веду і закончыў жыцьцё спакойна, цалкам аддаючыся Божай волі.

Вось тут яшчэ падаём некалькі прадсьмертных думак а. Дашуты: — Мой Божа, быў я ў дзяцінстве ўбогім пастушком, пасьвіў гусак і пасьля Бог у сваім вялікім міласэрдзі выбраў мяне на свайго слугу. А служыў я Госпаду Богу, як умеў. Нічога вялікага не зрабіў, але спадзяюся, што Бог будзе для мяне міласэрны. —

20 жніўня: Пасьля Прычасьця спытаўся Хворага санітар: — Аб чым, Айцец, так доўга разважаеш? —

— Думаю аб Ісусе Хрысьце, які стаў для нас хлебам. — Перапрашаю Яго за правіны, каб быў мне міласэрным. — (І прашаптаў): — Ах, Госпадзе Ісусе, люблю Цябе! дзеля Цябе хачу жыць і паміраць. —

25. VIII: Пасьля Прычасьця сказаў дыякану: — Дзякую, што ты даў мне Бога майго! — І яшчэ: — Траціцца памяць, але аб Богу помню.

Паміма цяжкіх хвілін, хворы не паказвае нецярплівасьці, ня чуваць нараканьня. Калі мае ясьнейшую сьведамасьць, радасная ўсьмешка ня зыходзіць зь ягоных вуснаў і ў гэтым не бачыцца нічога штучнага: натуральная радаснасьць, удзячнасьць за помач і сардэчная прыязьнь — вось адзнакі ягонага мілага характару да апошніх хвілінаў жыцьця!

29. VIII: І гаварыў: — Калі буду прад Богам, буду помніць аб усіх, аб маіх прыяцелях, аб Законе, аб Царкве ў Польшчы, (а Царква ў кайданах). Каб Бог даў больш сілы Прымасу Вышынскаму!

30. VIII: Цешуся, што Бог пазволіў мне жыць падчас Сабору. — Яшчэ сяньня бачу экумэнічную ідэю, дзеля якой я калісьці працаваў, хоць дакладна яе не знаючы. — Айцец Матулевіч яшчэ 50 гадоў таму прадбачаў, што на гэтым Саборы будзе разважацца. — Ён (Матулевіч) так любіў Царкву! Гэта ён прычыніўся да таго, каб я лепш і глыбей пазнаў тайніцу Царквы. Дзеля таго і напісаў ён у Канстытуцыі Закону, што Царкву трэба любіць як матку, а ў патрэбе за яе бяз сумневаньня і жыцьцё аддаць.

1. IX: — Чаму — пытаецца санітар — Вы ўсміхаецеся ад самае раніцы?

— Цешуся — кажа — што незадоўга стану перад Богам. — Убачу Божую Маці, гэтулькі сьвятых мучанікаў, што не так як я, але сапраўды надта цярпелі — аж да разьліву крыві. — Убачу і нашых айцоў, што адыйшлі і ўжо ў небе, а ёсьць іх гэтулькі! І вылічыў іх колькананццаць, пачынаючы ад Айца Заснавальніка (Матулевіча) і ад Паважанага Слугі Божага Станіслава Папчынскага.

8. IX: Цешуся, што прыходзіць кананьне, дзякуй Богу! — І пасьля нейкага часу: — Ойча, ў рукі Твае аддаю духа майго! —

Цэлымі гадзінамі не разлучаецца Хворы з крыжам. Слабеючай рукою трымае яго і зь вялікай пашанаю цалуе. Часамі трэба гэтую шаноўную руку падрымліваць. Як крыху палепшала, просіць чытаць малітвы за канаючых, а сам кажа: «Божачка, можна ня вытрываць . . .»

Калі санітар падаў лякарства, кажа: — Мне трэба лекара духоўнага, а не для цела! —

Як хацелі даваць лякарства для аблягчэньня, казаў: — Даражэнькі, дай мне зыйсьці з гэтага сьвету. Вы штучна мяне трымаеце. Але няхай дзеіцца Божая воля! —

Пасьля шаптаў: — Чакае мяне нешта прыгажэйшае, а гэтыя лякарствы . . . —

Вечарам гаварыў: — У важных справах, як збаўленьне, можа быць і эгаізм. — Я — кажа — здаюся на Божую волю — гавару — «Няхай робіць, што Яму падабаецца», а шукаю аднак ратунку. — Гэта-ж нейкая форма эгаізму, нават у такіх паважных хвілінах. Хацелася-б так танным коштам знайсьціся на другім баку — гэта эгаізм. —

Пасьля доўгага перапынку выясьняў: — Перажываю шчасьлівыя пачуцьці, пэўна даў мне Госпад Бог гэтую ласку перад скананьнем. — Нічога не баюся! —

9. IX: — Раніцай перад Сьв. Прычасьцем: — Я думаў, што ўначы ўжо скончу, а вось сягодня пачуваюся добра. — Спаў добрых некалька гадзін.

Пасьля аднак пачаў слабець і лякарствы не памагалі. Хворы ўжо ня можа гаварыць, але яшчэ тое-сёе магчыма зразумець: — Дайце — кажа — Госпаду Богу свабоду — няхай робіць, што хоча!

Яшчэ нешта хоча выявіць — (што такое?): — Падаю сабе мэлёдыю . . . — (якую?) — найбольш да Божае Маці з Люрд: «Авэ, Авэ, Авэ...»

Гэта былі апошнія словы і з гэтай мэлёдыяй а гадзіне 15,30, глянуўшы на крыж і пацісьнуўшы руку дыякана-санітара, адыйшоў гэты Божы сьпявак канчаць «Авэ Марыя!» ў вечнасьці.

Так зачынілася кніга жыцьця добрага, шчырага, працавітага слугі Божага, які не дазнаў на зямлі шчасьця, каб памерці і быць пахаваным у роднай зямлі беларускай, якую так любіў і за якую доўгія гады цярпеў выгнаньне ў чужыне!

ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!

*а. Я. Г.*

# „Беларуская“ выстаўка ў Нотынгаме

Ангельскі горад Нотынгам ёсьць зьвязаны вузамі братэрства з Менскам. Дзеля гэтага мяне вельмі зацікавіла вестка ў адным з лютаўскіх нумараў «Літаратуры і Мастацтва» аб тым, што ў гэтым горадзе плянуецца рад імпрэзаў з нагоды 900-годзьдзя сталіцы Беларусі. Мае далейшыя запытаньні ў натынгамскім гарадзкім інфармацыйным бюро выявілі наступнае:

Ад 13-га да 26-га сакавіка мае быць у Нотынгаме на Карынгтон Стрыт выстаўка беларускіх сувэніраў, малюнкаў менскіх дзяцей і здымкаў з Менску.

Ад 26-га сакавіка да 23-га красавіка ў гарадзкой галерыі абразоў на Вікторыя Стрыт будзе выстаўка абразоў сучасных беларускіх мастакоў.

Акрамя гэтага прадбачацца ў праграме розныя фільмы, канцэрты і т. д.

Якраз 16-га сакавіка мне трэба было быць у Нотынгаме. Адразу з станцыі я пайшоў на Карынгтон Стрыт. Трэба прызнаць, што памешканьне для выстаўкі было нанятае ў надзвычай добрым, цэнтральным месцы. Над уваходам красаваўся вялікі ангельскі напіс: «Нотынгам—Мінск». У вітрыне з аднаго боку дзьвярэй была выстаўленая досыць вялікая колькасьць беларускіх сувэніраў: скрыначак, фігурак, шкляных вырабаў, папяльнічак і т. д. На ганаровым месцы віднелася плоская разьба ў дрэве, якая прадстаўляла нейкага досыць тоўстага і непаваротнага рыцара на маленькім худым кані. На разьбе надпіс: «Илия Муромец. В. Дедмидович. Детдом, г. Гомель». Адзінай сапраўды мастацкай рэчай быў інкруставаны ў дрэве партрэт Янкі Купалы. Тут-жа побач стаяў падобнай работы партрэт Карла Маркса. Адносна-ж «Ільічоў», дык імі хоць гаць гаці.

У другой вітрыне былі разьмешчаныя таксама сувэніры, але . . . украінскія. Мяне крыху зьдзівіла, што яны робяць на выстаўцы прысьвечанай Менску і Беларусі: паколькі я ведаю, беларусы ніколі ня мелі ніякіх імпэрыялістычных намераў у адносінах да братняга украінскага народу.

Сярод усіх гэтых беларускіх і ўкраінскіх экспанатаў кідаліся ў вочы вялікія рэклямы з прыгожымі каляровымі фатаграфіямі. Яны запрашалі ангельскіх турыстаў адведаць стара-

жытны рускі горад Ноўгарад, або ехаць пагрэцца пад гарачым сонцам Ялты. Аб Беларусі і Менску — ні слова.

Заходжу ў сярэдзіну. У шафах за шклом яшчэ больш скрыначак, папяльнічак і іншых падобных рэчаў. Некаторыя нават маюць напісанае слова «Мінск» па беларуску. Усе яны досыць прыгожыя, як прыгожымі ёсьць розныя турыстычныя сувэніры, якія можна купіць за некалькі пэнсаў ці франкаў у любым гарадку Заходняй Эўропы. Толькі тут ніхто яшчэ не дадумаўся рабіць выстаўкі з падобнымі «экспанатамі». Сярод пакою стаяць некалькі стэндаў з здымкамі, якія маюць ілюстраваць размах сацыялістычнага будаўніцтва сталіцы Беларусі. Паколькі шматпавярховы будынак у Менску зусім падобны да такога самага будынку, скажам, у Уайтчапэль, а сацыялістычныя вадаправоды вонкава нічым ня розьняцца ад буржуазных — дык гэтая частка выстаўкі не зрабіла на мяне ніякага ўражаньня. Больш цікавымі былі малюнкі беларускіх дзяцей з Менску. Некаторыя з гэтых 9-10 гадовых мастакоў выказалі зародкі сапраўднага таленту. Нажаль толькі ўсе малюнкі былі падпісаныя па расейску.

Быў там таксама цэлы стол з турыстычнай літаратурай аб СССР у ангельскай мове. Зноў захвальвалася прыгожасьць Масквы, Ленінграду, Ноўгараду і Ялты. Аб Менску і Беларусі — ні ўспаміну. Я зьвярнуў на гэта ўвагу кіраўнічкі выстаўкі, ангельскай камуністкі. Яна пачала гарачкава шукаць усюды, каб знайсьці што-небудзь аб Беларусі. Мне аж шкода яе стала, калі яе шчырыя высілкі не далі ніякіх вынікаў. У нас завязалася гутарка аб русыфікацыі жыцьця на Беларусі. Яна пачала мяне запэўніваць, што ніякай русыфікацыі няма. Як прыклад яна мне прывяла той факт, што ўся карэспандэнцыя, якую яна атрымоўвае з Менску, ёсьць напісана ў беларускай мове, а паколькі яна гэтай мовы ня ведае, дык павінна езьдзіць аж у Лёндан, каб пературмачыць на ангельскую мову. Праўда, пісьмо, якое яна мне паказала, было напісанае — мусіць памылкова — па расейску. Калі-ж я зьвярнуў увагу на тое, што беларускія дзеці падпісваюць свае малюнкі па расейску, мусіць ня вадаючы як пісаць у роднай мове, кіраўнічка ўзлавалася. «Як вы ведаеце, — запытала яна, — што тут напісана па расейску, а не па беларуску? Літары-ж тыя самыя». Я ня вытрымаў і засьмяяўся. Гэта яе ўзлавала яшчэ больш. «У кожным выпадку, — заявіла яна катэгарычна, — магчыма раней пісалі на Беларусі інакш. Але цяпер там пішуць такім чынам». «Тым горш» — быў мой адказ.

Кіраўнічка пабачыла, што перабрала мерку і асьмяшыла сябе, тым больш, што мы былі не адны. Каб замяць няпрыемнае ўражаньне, яна зьмяніла тон і сказала, што хацела-б са мной пабачыцца і пагутарыць іншым разам, але цяпер яна павіннаісьці, бо мае важнае спатканьне.

Да гэтага ўсяго трэба дадаць, што ніводзін з экспанатаў ня быў на продаж, я ня мог даведацца прозьвішча мастака, які зрабіў партрэт Купалы і слова «Беларусь» у ангельскай праграме было напісана «Byello-Russia».

6-га красавіка мне зноў прышлося быць у Нотынгаме. Нічога не падазраючы, я пайшоў у галерыю на Вікторыя стрыт з радаснай надзеяй пабачыць там творы сучасных беларускіх мастакоў. Можаце ўявіць маё зьдзіўленьне, калі пры ўваходзе я ўбачыў абвестку аб тым, што цяпер тут адбываецца выстаўка старых абразоў узятых з рэзэрвы Нотынгамскага Замку! У кіраўніцтве галерыі мне сказалі, што беларускія абразы не прыбылі і яны ня ведаюць што з імі сталася, бо на іхнія запытаньні яны не атрымалі з Менску ніякага адказу ні выясьненьня.

Так выглядала сьвяткаваньне 900-тых угодкаў Менску ў братнім Нотынгаме. Бедныя чытачы «Літаратуры і Мастацтва»: яны напэўна думаюць, што ўся Англія гаворыць аб Беларусі.

**Simplicissimus**

# Яшчэ адна выстаўка

Выстаўкі аб СССР робяцца ўсё больш і больш прыгнабляючымі для зацікаўленых культураю нерасейскіх рэспублікаў. Выстаўка «Вялікая Брытанія — СССР», якая адбывалася ў Лёнданскім музэі Victoria and Albert у часе ад 9. II. да 2. IV. гг., не зьяўляецца ў гэтым выняткам. Прыгожа ўпарадкаваны багаты матар'ял выстаўкі (узяты ў большай частцы з Брытанскага Музэю і розных ангельскіх мастацкіх галерыяў) радаваў сэрцы ўсіх рамантычных паклоньнікаў Сьвятой Русі. Тут было ўсё што трэба, выстаўленае з любоўю на публічны подзіў: транзакцыі Лёнданска-Маскоўскай гандлёвай кампаніі, кроўныя сувязі між ангельскай каралеўскай і царскай расейскай сем'ямі і, безумоўна, бясцэнныя дакумэнты з побыту Уладзіміра Ільіча ў Лёндане. Але аб Беларусі — нічога, аб Украіне — нічога, аб Армэніі — нічога. Вільнюс (так і напісана) быў прадстаўлены пазычаным з Бодлейскай Оксфардзкай бібліятэкі адным паасобнікам Евангельля выданага ў 1594 годзе, безумоўна не ў літоўскай, а ў славянскай мове. Аб азіяцкіх рэспубліках — n'en parlons pas, паколькі арганізатары выстаўкі аб іх таксама забыліся. Паміж рознымі неграматычнымі «очен красывій» і «хароша» у кнізе наведвальнікаў мяне пацешыла заўвага аднаго больш крытычна думаючага ангельца: «Гэта ня выстаўка аб СССР, але аб Маскоўскай Імпэрыі».

**Spectator**

## З беларускага жыцьця

### СЬВЯТКАВАНЬНЕ ЎГОДКАЎ 25-га САКАВІКА У ЛЁНДАНЕ

Сьвяткаваньне ўгодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ў Лёндане адбылося ў суботу 1-га красавіка ў Беларускім Доме. Ладзіў сьвяткаваньне Лёнданскі Аддзел Згуртаваньня Беларусоў у Вялікай Брытаніі. Пасьля адкрыцьця акадэміі старшынёй Аддзелу сп. Я. Міхалюком, быў прачытаны зьмястоўны даклад а. Л. Гарошкі. Мастацкая частка была наладжаная стараньнямі сп-шні Веры Рыч. Пасьля акадэміі быў вельмі смачны і густоўна падрыхтаваны пачатунак.

### САКАВІКОВЫЯ УРАЧЫСТАСЬЦІ Ў НОТЫНГАМЕ

Беларусы ў Нотынгаме адсьвяткавалі 49-тыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ў нядзелю 9-га красавіка. Раніцай а. Янка Абабурка адправіў у беларускай праваслаўнай царкве сьв. Літургію і Малебен за Беларусь. Пасьля ўсе сабраліся ў мясцовым украінскім клюбе, дзе быў нарыхтаваны супольны абед. Даклад аб 25 Сакавіку зрабіў сп Я. Бунчук. Сп. Ул. Капач падрыхтаваў мастацкую частку.

### ВЕЧАР ПАЭЗІІ БАГДАНОВІЧА Ў ЛЁНДАНЕ

Беларусы з Лёндану і аколіцы, а таксама іхнія ангельскія прыяцелі, мелі нядаўна вялікую прыемнасьць пачуць вершы Максіма Багдановіча ў ангельскім перакладзе сп-шні Веры Рыч, паэткі ведамай ужо з ранейшых тлумачэньняў беларускай паэзіі на ангельскую мову. Літаратурны вечар, прысвячаны 50-тым угодкам сьмерці паэты, адбыўся ў памешканьні Школы сьв. Кірыла Тураўскага ў суботу 13-га траўня. Ён быў зарганізаваны супольнымі стараньнямі ангельскага часапісу паэзіі «Manifold» і Лёнданскага Аддзелу Згуртаваньня Беларусоў у Вялікай Брытаніі. Сярод дэкляматараў былі ведамыя артысткі тэлевізіі і тэатру Розамунд Грынвуд і Діана Ольсэн, паэтка Рыта Спаар, а таксама Элізабэт Анн Гарвэй, Бэрнард Дэніс і Джон Нікольсон. Сп. шня Рыч, якая кіравал вечарам, сваімі заўвагамі памагла лепш зразумець творчасьць Багдановіча нават тым, якія з ею былі ўжо добра знаёмыя.

Было прачытана звыш 20 вершаў паэты, сярод іх Зьмяіны цар, У вёсцы, Ціхі вечар, Слуцкія ткачыхі, Пагоня, Раманс (Зорка Вэнэра), Лявоніха, Летапісец, Псалтыр, Рондо, 5 трыялетаў, насьледваньні скандынаўскай, пэрскай і японскай паэзіі, а таксама Апокрыф.

Прыгатаванае прыняцьце, якое адбылося пасьля чытаньня вершаў, мела ў сабе таксама шмат паэтычнага.

Аднагалосна вечар быў прызнаны надзвычай удалым. Тлумачэньні Веры Рыч адзначаюцца высокімі мастацкімі вартасьцямі пры захаваньні літаральнай дакладнасьці. Трэба толькі пажадаць, каб яны як найхутчэй пабачылі сьвет у друку.

## З царкоўнага жыцьця

РЫМ — ВАТЫКАН: 22-га лютага Папа Павал VI-ы аб'явіў новы Юбілейны Год як памятку Сьв. Апосталаў ПЯТРА і ПАЎЛА, якіх сьвяткуецца 19 стагодзьдзяў пасьля іх мучаніцкай сьмерці. Гэты год пачынаецца 29-га чэрвеня 1967 і канчаецца 29 чэрвеня 1968 году. Разважаецца перад усім моцная і жывая в е р а Сьвятых Апосталаў, якія апавядалі аб Хрысьце жыдом і паганам, вучылі іх жыць па хрысьціянску — любіць Бога і бліжняга. Самі Апосталы за гэтую веру і любоў былі мучаныя і забітыя: Сьв. Павал сьцяты мячом, а сьв. Пётр укрыжаваны.

Цяперашні сьвет, вельмі праняты поступам навукі і выгодамі жыцьця на зямлі, лёгка забываецца аб Богу і аб сваёй несьмяротнай душы. Няхай-жа Сьв. Апосталы навучаць нас сваім прыкладам, што дачаснае жыцьцё прамінецца, а вечнае нас чакае. Дык пры ўсялякіх пераменах на сьвеце, і ў вайне і ў супакою, мы павінны аднолькава в е р ы ц ь у Бога і служыць Яму ўсім сэрцам!

*

СЫНОД КАТАЛІЦКАЕ ЦАРКВЫ зьбярэцца 29 верасьня 1967 ў Ватыкане на спэцыяльную раду аб самых важнейшых справах Царквы. Адбудзецца толькі адна сэсія ў працягу месяца, а можа і даўжэй патрывае.

Сынод складаецца з прадстаўнікоў ад біскупаў цэлага сьвету з усіх народаў і дзяржаваў, прадстаўнікоў ад кардыналаў і ад манахаў — ад лацінскага і ўсходніх абрадаў каталіцкіх. Разам усіх будзе 193 чал. Усе будуць свабодна выбра-

ныя ў сваіх краёх і толькі 25 біскупаў будзе назначаць сам Папа (15%); гэтыя апошнія будуць спэцыялісты-вучоныя — багасловы і юрысты.

Сынод асабліва будзе разважаць справы, як уводзіць саборныя рэформы ў жыцьцё і іншыя самыя неабходныя праблемы.

✳

ПАРТУГАЛІЯ — ФАТІМА: 13. V. 1967 скончылася 50 гадоў — юбілей — аб'яўленьня Божае Маці траім дзецям, Люцыі, Яцынце і Францішку. Усяго было шэсьць зьяваў, якія Каталіцкая Царква прызнала надпрыроднымі і праўдзівымі. Там пабудавана слаўная вялікая сьвятыня і ў гэтым годзе сабралася там больш мільёну народу на юбілейнае набажэнства.

Асаблівую ўвагу і зьдзіўленьне выклікаў прыезд у Фатіму Папы Паўла VI-га: радасьці людзей нельга апісаць! На жаль Папа прабыў толькі ад раніцы да вечара. Ягоная прамова-казаньне ў мове партугальскай мае сусьветнае значэньне: гэта быў заклік да згоды ўсяго сьвету, перасьцярога аб патрэбах сьвету і голадзе і заклік да ўзаемнае помачы і ахвярнасьці. І яшчэ прыпомніў Папа прозьбу Божае Маці, каб увесь сьвет маліўся за Расею, якая сваімі грахамі, асабліва атэізмам горшыць усё чалавецтва. Сьвет павінен маліцца і пакутаваць, а міласэрнае Сэрца Дзевы Марыі вымаліць у Бога наварот Расеі і Божае Багаславенства для ўсяго стурбаванага сьвету. Каб Міласэрны Бог сьцярог нас ад голаду, агня і вайны!

ковай часткі для Хросту і Жанімства прылажаны тэкст у мове польскай і латышскай. Мусімо запытацца, чаму няма ў рытуале мовы беларускай, хоць беларусаў там напэўна больш як другіх жыхароў іншамоўных? Ці на гэта быў націск савецкай цэнзуры, ці проста самі летувісы ня лічылі патрэбным служыць духоўным справам беларусаў?

✳

ТУРЦЫЯ: Праваслаўная Царква і патрыярх Афінагор І перажывае прыкры і цяжкі націск турэцкага ўраду. Багаслоўская Школа, якая месьціцца на востраве Халькі, перажывае цяжкі крызыс, бо ўрад забараніў прыймаць у яе чужаземных студэнтаў: дзеля таго, што ў Турцыі праваслаўных зусім ня шмат, дык гэтая школа з браку кандыдатаў зусім ліквідуецца і Патрыархія астаецца бяз духавенства. Патрыярх вядзе перамовы з Грэцыяй, каб Багаслоўскую Школу перанесьці на востраў Крыт.

✳

ГАЛЯНДЫЯ: Падчас усяго Вялікага Посту манахі 4-ох манастыроў закону Трапістаў дасталі — замест хлеба і іншае стравы — толькі парашкі, як штучную спажыву і як аптакарскія лекі. Гэта была спэцыяльная ежа, якую ім выдаваў, як экспэрымэнт, адзін індустрыяльны канцэрн: яны шукаюць гэты спосаб кармленьня людзей, каб ратаваць прышлыя пакаленьні ад голаду. Прытым манахі былі пад наглядам экспэртаў, якія мерылі іхні пульс, сэрца і тэмпэратуру, а таксама вагу і агульны ўплыў штучнае яды на арганізм здаровых людзей.

**Украінскаму Кардыналу, Яго Эмінэнцыі Іосіфу Сьліпому, які доўгія гады прабыў у Савецкіх лягерах і выпушчаны адтуль пару гадоў таму, скончылася 75 гадоў жыцьця, 50 гадоў сьвятарства. — Рэдакцыя жадае Яму здароўя і Божага Багаславенства на**

**МНОГАЯ ЛЕТА!**

А манахі далі сябе выпрабаваць дзеля прагрэсу навукі і дабра ўсяго чалавецтва: ведама, пры гэтым рызыкавалі сваім здароўем і... апэтытам. Пабачым, што далей будзе з тымі манахамі і з усімі намі на нашай беднай зямлі, на якой людзі так няўмела гаспадараць?

✳

ПОЛЬШЧА: Ужо некалькі год урад паклікае з духоўных сэмінарыяў студэнтаў у войска, не даючы ім адтэрміноўкі, як гэтае робяць для студэнтаў сьвецкіх. Спачатку пасылалі ў розныя часткі войска, каб перафасаваць іх на атэістаў, аднак дзеілася наадварот, бо студэнты-сэмінарысты, асабліва законьнікі, пацягвалі іншых жаўнераў да малітвы і да касьцёлаў. Таму цяпер знайшлі для такіх духоўных адзін зборны ваенны пункт, як-бы духоўны лягер, дзе яны ўжо не спатыкаюцца з сьвецкімі жаўнерамі.

✳

ЛЕТУВА: Нядаўна надрукаваны там новы рытуал для каталікоў-лацінікаў у мове лацінскай і летувіскай. Характэрна тое, што ў дадат-

✳

БЭЛЬГІЯ: АА. Езуіты адступілі сваю вялізарную з усім будынкам царкву-касьцёл на патрэбы праваслаўнага Мітрапаліта Мэлецыя.

Прычына: у суседзтве гэтае сьвятыні асяліліся грэцкія праваслаўныя работнікі, якія ня мелі дзе маліцца. Сьвятыня насіла тытул Сьв. Францішка Ксавэрага, патрона Езуітаў, які быў слаўным місыянэрам у Індыі, Малякцы і Японіі (1541 да 1552).

*

ФРАНЦЫЯ: Біскупы Лётарынгіі — гор. Мэтц, Нансі і Вэрдэну — выдалі супольны пастырскі ліст у справе працы і беспрацоўя, асабліва ў капальнях. Справа ў тым, што францускія капальні вугля вычэрпываюцца і паволі замыкаюцца, а работнікі астаюцца звольненымі. Значыць, гаспадары ўсьцяж пагражаюць, што замкнуць прадпрыемствы і работнікі ня могуць бараніцца, як звычайна бывала, забастоўкамі, а зноў-жа безрабоцьце прыносіць галадоўку...

Дык вось у пастырскім лісьце Біскупы апэлююць да работнікаў і да гаспадароў, каб спорныя справы вырашалі супольнымі дыялёгамі, не аддаючы недаразуменьняў на суд адзінак аднаго ці другога боку. Перасьцярагаюць гаспадароў перад рызыкай, каб ня прыводзілі рабочае клясы да роспачы і неразважнасьці, а таксама работнікаў, каб працавалі сумленна, шануючы ўласнасьць прадпрыемстваў і дбаючы пра агульны інтарэс сваей працы і карысьць усяго грамадзтва і дзяржавы.

БРАЗЫЛІЯ: Канфэрэнцыя каталіцкіх біскупаў пастанавіла ў Сао Паўлё раздаць свае землі — касьцельныя маемасьці — бедным сялянам бясплатна. Гэта вельмі паважны і будуючы прыклад для вялізных багачоў, што маюць бязьмерныя маемасьці, але прыклад надта трудны і няпрыемны, дык ня ведама, як на гэтае зарэагуюць. Ужо некаторыя загадзя наракаюць на Каталіцкі Касьцёл, што падпаў пад уплыў камунізму.

*

АНГЛІЯ: У дзень Зялёных Сьвяткоў — Сьв. Духа — 14. V. — адбылося пасьвячэньне катэдры ў гор. Лівэрпуль. Думка і пляны гэтага арыгінальнага і вялізнага касьцёлу паўсталі ўжо больш 100 гадоў. Але апошнія 5 гадоў каталікі ўлажылі нямала ахвяраў, каб дакончыць запланаваную справу. Круглая сьвятыня не падобна да звычайнага якогасьці тыпу ці стылю, ведамага дасюль: гэта выклікае зьдзіўленьне, розныя пагляды і крытыку, аднак-жа пераважае агульнае адабрэньне. Кажуць, што ў пошуках новых стыляў, Лівэрпуль здаў памысна экзамен. Каталікі-ангельцы спадзяваліся і запрашалі на пасьвячэньне Папу Паўла VI-га, аднак да гэтага не дайшло, толькі былі тры кардыналы і блізу ўсе біскупы Англіі, Валіі і Шкоцыі, а такжа і заграцічных нямала.

**ЯГО ЭКСЦЭЛЕНЦЫІ БІСКУПУ БАЛЕСЛАВУ СЛОСКАНУ**
**Апостальскаму Адміністратару Менска і Магілёва**
**ў 50 год Сьвятарства і 40 год Біскупства перасылае свае сардэчныя пажаданьні — Добрага здароўя, Божага Багаславенства —**
**СТО ГОД! — МНОГАЯ ЛЕТА!**

**Рэдакцыя і Адміністрацыя «Божым Шляхам»**

# Увагі для развагі

Думкі з кніжак*

Як ты сьмееш баяцца сьмерці?! Гэта-ж якраз тое самае, што збаяцца на полі бою ... ты — дарослы, сільны, адукаваны мужчына і ... баішся. Даволі ўжо — ня трэсьціся! Разьвесяліцца! Напераd! Марш!

Жыцьцё чалавека падобна да службовай падарожы. Кароткае і адказное. Мы ўсе на гэтай зямлі — ані госьці, ані гаспадары, ані турысты, ані тубыльцы. Мы ўсе ў службовай падарожы.

Да Бога трэба мець такі самы давер, які мае сабака да свайго гаспадара. Засьвішчыш — прыляціць. Куды-бы ты не пайшоў, сабака, пра нішто ня пытаючы, з радасьцяй пабяжыць за табою хаця-бы і на канец сьвету.

Сярод разгону зьбіраньня ці ашчаднасьці чуецца голас: «Благаслаўлёныя ўбогія духам!»

Цэлы сьвет можна аб'ехаць у працягу няшмат дзён — засесьці ў самалёт і аб'ехаць, нічога не здабыўшы для духу, а толькі памнажаючы колькасьць атрыманых інфармацыяў.

Селянін — здаралася — перахрысьціцца, пакуль узяць лыжку, і гэтым адным гестам, як рэфлектарам, ён лучыцца з зямлёю і зь небам, з прошласьцяй і з будучыняй.

Тое, што вера ў Бога паменшала, дык гэта дзякуючы гарадзкім выгодам і поступу тэхнікі. У асяродзьдзі створаных намі прадметаў мы пачуліся тварцамі сьвету.

Голас Божы разьлягаўся ў пустыні, ў цішы, а ўласна нам бракуе цішы і пустыні. Мы ўсё заглушылі, ўсё напоўнілі сабою, а пасьля яшчэ дзівімся, што Госпад ня хоча нам паказацца.

Досыць ужо гаманіць аб чалавеку. Час падумаць аб Богу.

Ня выключана, што пекла знайходзіцца ўласна на зямлі. Тады ўсё становіцца зразумела. А калі не? Божа, то якжа тады..?

У пякельным прадоньні (ідзе) вечнае змаганьне за пяршынство і сваркі на тэму вольнасьці, роўнасьці і брацтва.

Уявіце сабе генія на тым сьвеце. Бегае з кута ў кут — па пекле — і ўсіх пераконвае: «Але-ж я — таленавіты!»

*

Трэба верыць ня дзеля традыцыі, ні з баязьні сьмерці, не на ўсялякі выпадак, не дзеля таго, што хто прымушае і страшыць, не дзеля гуманістычных прынцыпаў, не таму, каб збавіць душу, або каб быць арыгінальным... Верыць трэба з тае простае прычыны, што існуе Бог.

Прырода прыгажэе пад уплывам Божага назіраньня. У моўчках. Бог пазірае здалёку на гушчар дрэваў — і гэтага досыць.

Законы прыроды — гэта адзін вялікі цуд, які паўтараецца ў часе і ў прасторы.

Кожная кветачка выклікае зьдзіўленьне, амаль млееш у захапленьні: якая-ж работа!

Сьпявакі і музыканты, што шмыгаюць у травах, узьлятаюць у паветра ...

---

* Гэтыя выняткі ўзяты з кніжкі А. Сіняўскага, якую ён выдаў заграніцай пад псэўданімам, (за гэта дастаў 8 гадоў турмы): Абрам Тэрц, «ДУМКІ ЗЬНЯНАЦКУ». Літаратурны Інстытут, Парыж.

*Пераклаў з рас. Я. С.*

## З лістоў ў Рэдакцыю

### І. ЯК Я ЕХАЎ У АМЭРЫКУ — БЯЗ ПЕРАСАДКІ

Лёс казаў мне пакінуць Бацькаўшчыну хаця-нехаця і апынуўся я ў аднэй гасьціннай краіне. Жыў, працаваў і ўздыхаў — сам ня ведаю па чым, — аж надумаўся запісацца ў Амэрыку. Кажуць: «Там усе работнікі — мільянэрамі...», дык чаму-ж не папрабаваць шчасьця?

Гэта быў 1956, калі паклікалі ў амэрыканскую амбасаду — аформіць паперы. Найперш пыталіся, якога я колеру і ці не залішне грэшны? А тады ўсе грахі перасейвалі праз густое сіта. Пасьля аб здароўі: разьдзелі, абмацвалі, як жыды курыцу дый ставілі пад машыну, каб пабачыць у нутры, ці няма чаго прыхаванага? На шчасьце, ці на няшчасьце, машына нічога не знайшла. Сказалі: «Віза — бясплатная, але за транспарт трэ плаціць!»

Але на транспарце сказалі: «На параплаў трэ 3—4 месяцы чакаць, а летаком едзь хоць сяньня!»

Кажу ім: «Баюся летаком — гэта вялікая Атлянтыцкая вада: ня дай Бог, лятак сапсуецца, а я ня ўмею плаваць, дык і ўтаплюся, ня стаўшы мільянэрам...»

Сьмяюцца. — Ну, і купіў бялет на параплаў за 170 даляраў. І вось за два месяцы пакую, як кажуць: «куфры-пакі, кот два сабакі» і 18. V. 1956 з порту Ле-Гаўр да Нью Ёрку — бяз ніякае перасядкі! І 24. V. 1956 я ўбачыў берагі слаўнае Амэрыкі — падобна як Хрыстафор Калюмб бачыў у 1492, 12-га верасьня. Я аднак пабачыў найбольшы порт на сьвеце...

Але — паміма найпрыгажэйшае ранішняй пагоды — гораду ня было відно, а толькі чубкі хмарадзёраў, якія тырчэлі быццам пасьля страшнога катаклізму. Дый вісела хмара чорнага дыму-пылу, якая як сажа закрывала цэлы горад. Аж у мяне валасы падняліся на галаве! Як-жа тут жыць? І чым дыхаць?..

Але ўжо ня было часу думаць: прыехалі, кантроль! «Што маеш трэфнага? Водка, парфумы?..» — «Так — кажу — тры бутэлькі парфумы». Паказаў — усе тры бутэлькі — вялічынёю трох напарсткаў. Прапусьцілі. І я аказаўся вольны і — на шчасьце — падхапіў мяне таварыш-сябра і мы зара ў тры сусы, абодвы беларусы, паехалі да яго на кватэру.

## II. ЯК Я СТАЎСЯ «МІЛЬЯНЭРАМ»?

Затасьціўшы ў Нью Ёрку (а быў гэта пачатак лета — найпрыгажэйшая пара ў годзе), я зара купіў сабе працу ў аднэй агенцыі за 20 даляраў. За працу (восем гадзін у дзень) мне плацілі 1 даляр 35 цэнтаў за гадзіну. Але з працы прыяжджаў як п'яны: есьці не хацелася зусім, а хата ківалася, як параплаў на моры падчас буры. Як мыўся ў ванне, дык здавалася, што плаваю ў марскіх хвалях. І зара клаўся спаць з думкаю: «Калі раніцай хата не перастане гайдацца, дык ня быць мне мільянэрам!» Але рана я пачуваўся нармальна, апрача моцнага голаду. Ну, і еў, як стары конь, дый бег да працы, а з працы — зноў быў «п'яны»! Так штодня, хоць водкі і ня нюхаў.

Тады, пасьля месяца такога спорту, кінуў тую работу дый пачаў выгравацца на беразе ньюёрскага акіяну. Але мае таварышы пастараліся знайсьці мне працу ў шпіталі, у сталоўцы, дзе жыды мне плацілі па 100 даляраў у месяц.

Тады, колькі я лічыў ці недалічываў свой капітал, а дайшоў да высвнаву, што мільянэрам ня буду!

Пасьля двух месяцаў надарылася работа ў, так званым, «банку» на 74 даляры 35 цэнтаў у тыдзень. І вось тут упэўнена падумаў: «Цяпер абавязкова стану мільянэрам, бо такія заработкі хіба толькі ў Амэрыцы...» Там працаваў год і пачаў другі. Грошы складаў у банк і было ўсё добра.

Толькі-ж такое шчасьце доўга ня трывала, бо аднойчы з працы адвезьлі мяне ў шпіталь і там камплектна падпаў пад ньюёркскую ўбеспячальню; а парадак у іх «братэрскі»: выкінулі на вуліцу і выставілі ахову на заробленыя грошы. І так я быў пільнаваны, як сапраўдны прэзыдэнт, або як арабскі магараджа, а ўсё дзеля таго, каб ня выпарыўся, як камфора. Але я ня быў камфорай і зьнікнуць ня мог. Мусеў лячыцца сам...

Так выдаў усе грошы запрацаваныя ў Амэрыцы на лекараў і лякарствы, і грошы прывезеныя з Эўропы, і сябры пазычалі, аднак усяго таго было мала ньюёркскім лекарам!

І вось — замест мільянэрам — стаўся дасьмертным нявольнікам ньюёркскай убяспячальні, а ўсё дзеля таго, што ня мог сам лячыцца.

Боніфацы Прытыцкі

✳

ДРУЯ: У Браслаў да касьцёла нам каля 15-ці кілямэтраў (жывуць у вёсцы ў старану Браслава), але ўсёроўна бываем у касьцеле. Касьцёл каталіцкі ў Браславе яшчэ не закрылі, хаця і хацелі закрыць. Ксёндз наш стары і слабага здароўя. На Вялікдзень мы былі ў касьцеле: людзей было поўна, а многія зь іх здалёку. Дый на гэтае вясёлае Сьвята ў нас у касьцеле заўсёды бывае многа людзей.

Цяпер у нас вясна: на вазёрах лёду ўжо няма, але сады яшчэ ня цьвітуць і лістоў на дрэвах няма, але на палях зелянее трава.. Зьяўляюцца першыя кветкі, веснавыя.

Ці можаце прачытаць маё пісьмо? У нас школы беларускія і рускія, таму пішам па беларуску.

✳

ЧЫКАГА: Да гэтага далучаю ад В-ды 10 $ для Вас і ад сябе 5 $, якія прашу пераслаць у Бразылію Сп. Віктару Небядовічу (глядзі «Божым Шляхам № 2 (101). Адначасна шлю малітвы ў нашай мове, каторыя мы адгаворваем падчас Літургіі — малітвы, што да гэтага часу былі сьпяваныя ў малазразумелай славянскай мове. Прывітаньне ўсім!

Я—ч

АЎСТРАЛІЯ: У нас восень, цёплая, прыгожая восень, якая супадае з вясной у Эўропе. У такі прыгожы час у сакавіку ў Мэльбурне адбываецца слаўны на цэлую Аўстралію Фэстіваль, назыв. «Моомбай». Трывае — паводле праграмы 10 дзён, але забірае шмат болей часу — на прыгатаваньні, а пасьля — на пераважываньні.

І чаго толькі ў працягу «Моомбы» няма? І канцэрты, і выстаўкі, і балі, і спартовыя спаборніцтвы, і гульні, і танцы ў закрытых месцах і на вольным паветры. — Горад, асабліва ягоны цэнтр, удэкараваны знакамі-сымбалямі, узятымі у значнай меры з жыцьця аўстралійскіх аўтахтонаў-абарыгенаў. Да позняй ночы на вуліцах і ў парках поўна людзей. Скрозь сьвятло, музыка, сьмех. радасьць.

Каронай Фэстівалю бывае «Моомба-Парада», якая адбываецца нармальна ў апошнім дню Фэстівалю — у панядзелак: гэты Лябор Дэй становіцца сьвяточным і вольным ад працы. У парадзе бяруць удзел дзесяткі тысячаў людзей, якія рэпрэзэнтуюць усё найбольш цікавае і актыўнае, таксама ўсё, што шукае разгалосу-прапаганды ў Мэльбурне.

У гэтым годзе больш як 800 000 гледачоў, што ад самага раньня запаўнялі вуліцы-дарогу, па якой працягвала Парада. Канчаецца яна ў найбольшым парку гораду — Александра Гардэнс, дзе ў далейшым адбываюцца канцэрты. У слаўным Mever Music Hall — 200 тысячаў гледачоў: ідуць гульні, спартовыя паказы і інш., у парку і на рэчцы Yarra.

Увесь гэты — шмат-каляровы і галасны прабег Моомбы можна пабачыць у тэлевізіі і пачуць ў радыё.

У мінулыя гады ў Моомба-Парада бралі удзел і беларусы: ішлі разам з прадстаўнікамі іншых нацыяў у прыгожых нацыянальных вопратках і з напісам «Белерусія». Пасьля Парады — на Інтэрнацыянальны Канцэрт — ладжаны штогод Чырвоным Крыжам — прадавалі білеты і праграмкі. Так прынамсі ў такі скромны спосаб мы выходзілі на публічную арэну і рэклямавалі беларускае імя.. Але ў гэтым годзе толькі малая групка беларусаў памагала прадаваць білеты і праграмы дый у парадзе беларусы не паказаліся. А шкада! Можа «адаб'ёмся» на наступны год?

На гэтым і можна было-б закончыць апісаньне нашага жыцьця ў Аўстраліі. Усе чакаюць нядзелі, каб крыху адпачыць, што аднак не заўсёды ўдаецца. Бо, калі здарыцца які сход, ці зборка, дык вяртаюся зь іх найчасьцей з балючай галавой і з цяжкім сэрцам: так нас мала ёсьць, так нас моцна білі, а мы яшчэ дагэтуль не набралі розуму, каб у згодзе і еднасьці — прынамсі ў галоўным — маглі мы трымацца і працаваць.

**М. Нікан**

✳

АЎСТРАЛІЯ — СЫДНЭЙ, 27. III. 1967: Сябры Беларускага Аб'яднаньня ў Новай Паўдзённай Валіі ўрачыста сьвяткавалі 49--ыя ўгодкі Акту 25-га Сакавіка. Саля Файрфільд гатэлю, дзе сабраліся сябры, была ўпрыгожана кветкамі і народным сьцягам: гукі народных песьняў з кружэлак віталі прыбываючых: гэта здавалася жывым рэхам-водгукам з нашае далёкае Беларусі.

Акадэмію адкрыў уступным словам Старшыня Аб'яднаньня Інж. М. Каранеўскі. Зьмястоўны і цікавы рэфэрат аб змаганьні нашага народу за сваю незалежнасьць у працягу гісторыі і аб абвешчаньні дня 25. III. 1918 году Незалежнай Беларускай Рэс-

публікі прачытаў спадар М. Лужынскі. Наступна Др. Я. Малецкі паінфармаваў прысутных аб сучасных падзеях у сьвеце і на Бацькаўшчыне.

Успаміны сяброў дапоўнілі праграму афіцыяльнай часткі, якая была закончана адсьпяваньнем народнага гімну.

Наступна быў традыцыйны пачастунак, які працягнуўся добрых некалькі гадзінаў. Прысутныя дзяліліся ўспамінамі з Бацькаўшчыны — на жаль не заўсёды радаснымі — што надалей шалее калгасны прыгон, нястача і палітычна-нацыянальны прасьлед. А ўсё-ж мы верым, што Жыве Беларусь!

А. Лаўрыновіч

## З беларускае прэсы

СЯЎБІТ: Вяліка-Літоўскі (Беларускі) двумесячнік, Сакавік—Красавік, № 55, 1967.

СЯЎБІТ: № 56, III, 1967, Нью Ёрк. Нумар Вялікодны.

СЯЎБІТ: № 57, Май—Чэрвень, 1967.

БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА: № 9, Нью Ёорк — Саут Рывэр.

БЕЛАРУСКІ ГОЛАС: № 147, Сакавік, 1967, Торонто, Онтарыё, Канада. Цікавыя інфармацыі аб перакладзе Бібліі на беларускую мову і аб труднасьцях з выданьнем яе.

ЗЬНІЧ: Беларуская рэлігійная адраджэнская часопісь, Студзень—Сакавік, 1967, № 91.

НАВІНЫ ЗЬ БЕЛАРУСІ: № 6 (77), 31 Сакавіка, 1967, Нью Ёрк. № 7 (78), 19 Красавіка. № 8 (79), 30 Красавіка. Аб Выстаўцы у Манрэалі — Канада, пад назвай «ЭКСПО 67». Паедзе шмат хто з беларусаў — найбольш, каб убачыць там беларускую выстаўку 17 жніўвеня, якая будзе праграма і якія паказы прывязуць з сабой артыстыя і мастакі Беларусі? На бяду, няма сувэніру з беларускімі адзнакамі, а толькі агульныя савецкія!..

ГОЛАС ЦАРКВЫ: Рэлігійна-грамадзкі часапіс Праваслаўных Беларусаў, № 25, Вялікдзень, 1967. Бруклін, Вялікоднае Пастырскае Пасланьне. Малітва Уладыкі Васіля у Сэнаце ЗША.

БЕЛАРУС: № 120, Красавік, 1967, Нью Ёрк — Торонто. «ПАГОНЯ» — Беларуска-Канадыйскі Выдавецка-Мастацкі Клюб — Заклік да Суродзічаў: «Каб быць сябрам «Пагоні», трэба даць аднаразова $ 50. Таронта, Сакавік, 1967. А. Маркевіч — сакратар, К. Акула — старшыня.

У Нью Джэрсі Перавыбары Царкоўнае Рады.

# ВЕРШЫ

### СКАРГА БЯРОЗКІ

*Нахілілася бярозка, прашаптала дубу:*
*Гоняць, гоняць нашу моладзь на бяду, на згубу.*
*Не з гаечку гэта вецер шум сюды даносіць, —*
*То, праводзячы сыночкаў, матулі галосяць.*
*Пустазельлем, хмызьнякамі поле зарастае,*
*А ў пустыню, на чужыну моладзь ад'яжджае.*
*Дзе нядаўна гаманілі бары і дубровы,*
*Там цяпер толькі пянёчкі, дагніваюць дровы.*
*А бяз лесу, сам ты знаеш, родны край загіне:*
*Перасохнуць нашы рэчкі, будзе й тут пустыня. —*
*Гаспадарыць чужаніца, нішчыць што дзянёчак,*
*Сумна, цяжка чуць і бачыць, — парадзь што дубочак!*
*Адказаў дубок тут ціха, ціха, але срога:*
*— Саграшылі мы, сястрыца, угнявілі Бога.*
*Не памогуць сьлёзы матак, сум наш не паможа,*
*Толькі шчырая малітва ўратаваць край зможа.*
*Пахіліла верхавінку, з раніцы да ночкі*
*Шчыра молiцца бярозка, шапацяць лісточкі.*

Амэрыка, Нью Ёрк. Г. Н.
2. V. 1967

## У КРАСАВІКУ

*Ўжо сонца лінула*
*Цяплом жыцьцядайным —*
*Прырода ўскраснула*
*Са сну духам тайным.*

*Зялёным каберцам*
*Зямелька пакрыта;*
*Мы з радасным сэрцам*
*Ўзіраем на жыта.*

*На сонцы шчасьліва*
*Яно зарунела —*
*Вясёленька, жыва*
*Наўкруг заблішчэла.*

*Расьце ўсё; бярэцца*
*Ў каленцы травінка.*
*Варона уб'ецца —*
*Схаваецца сьпінка.*

*А жаўранак хваліць*
*Стварыцеля Бога:*
*Надзея трываліць*
*Ў моц Юр'я Сьвятога.*

*Што ў месяцы гэтым*
*Зямлю адмыкае*
*І зь мілым прыветам*
*Траву выпускае.*

*Ўжо пукацца сталі*
*Ўсялякія дрэвы, —*
*Лісткі паказалі*
*І цьвет белаплевы.*

*Фіёлік пах роніць,*
*Цьвет крые ў лісточак,*
*Камар над ім звоніць,*
*Дрыжыць матылёчак.*

*Людцы, як мурашкі,*
*Працуюць на полі:*
*Стаяць каламашкі*
*З аўсом на прывольлі.*

*Дзядулька сівенькі*
*Ледзь ногі цягае,*
*А збожжа з сявенкі*
*Аднак рассявае.*

*Унук перад дзедам*
*Ідзе з бараною*
*За конікам гнедым,*
*Ў руках з ляйчыною.*

*А бацька араты*
*Загоны складае,*
*Сахою зярняты*
*Зямлёй накрывае.*

*Кругом зелянеюць*
*Травой сенажаці*
*І ярка жаўцеюць*
*Ў ёй краскі-латаці.*

*Жывёла пасецца*
*Відаць на узбочку,*
*Пастыр валачэцца*
*Пры ёй неўдалёчку.*

*Зязюля кукуе,*
*Прысеўшы на дубе:*
*Казаў-бы — сумуе:*
*«А дзе-ж ты, Якубе?»*

*У лесе ўжо мушкі,*
*Як цьма, закніжэлі,*
*І ціханька птушкі*
*На гнёздах прыселі.*

*І ластаўкі ў стрэхі*
*Пад хаты лятаюць, —*
*Шчабечуць і ўцехі*
*Людцом прыбаўляюць.*

Андрэй З я з ю л я

21. IV. 1914.

## НОВЫЯ ВЕРШЫ ПАЭТАЎ САВЕЦКАЙ БЕЛАРУСІ

*Сяргей Панізьнік*

*Продкі мае —*
*крывічы*
*камяні*
*асьцярожна ў далоні бралі —*
*клалі першыя гарады.*
*На веча*
*майстроў склікалі,*
*каб паслаць Скарыну*
*роднаю моваю*
*першую кніжку стварыці.*

*У навалу —*
*браты паўставалі.*
*Скакалі шалёныя коні,*
*З чыстага срэбра мячы*
*сінь напалам калолі —*
*сьцякала яна па палянах ...*

*Ці не таму каля гулкіх бароў*
*столькі азёр сінее ...*
*Як поўныя кублы —*
*стагодзьдзі.*
*Зачэрпні па гарцу з кожнага —*
*прыпамінамі сьвет напоўніцца ...*

(Маладосьць, № 4, красавік 1967)

---

Сяргей Панізьнік нарадзіўся ў 1942 г. ў Мёрскім павеце. Вучыцца ў вышэйшым вайскова-палітычным вучылішчы.

# ПАВАЖНЫЯ ЖАРТЫ

БРЭЖНЁЎ, пачынаючы новыя 50 год дыктатуры, пайшоў пераадзеты да варажбіткі.

— Скажы, мілая бабулька, як мне кіраваць вялікай гаспадаркай?

Бабка аглядала далонь, узіралася ў вочы, кідала на карты, нешта шаптала і кажа:

— Найперш падбяры сабе самых хітрых памацнікоў і кажную раніцу радзься зь імі аб важных справах, але ніколі не рабі, як яны табе парадзяць!

— Другое: найбольш асьцерагайся разумнейшых ад сябе!

— І трэцяе: Ня прыкідвайся сам дурным, бо ўсёроўна цябе пазнаюць, як і я пазнала.

БРЭЖНЁЎ: — А хто-ж я такі?

БАБА: — Ды ты глядзі, каб ня скінулі цябе, як ты скінуў папярэдніка!

БРЭЖНЁЎ: — Маўчы, ведзьма, дух табе вон!

БАБА: — Табе дух вон! Ты мяне больш баішся ...

### УСЁ ЁСЬЦЬ ...

У Саветах ёсьць усё, але не для ўсіх. А прыватная ўласнасьць скасавана для ўсіх, апрача камуністых і чым вышэй хто пастаўлены, тым мае большую ўласнасьць. А галоўны Сакратар ёсьць уласьнікам, панам і памешчыкам усяго Саюзу, багацейшым чым даўнейшы цар!

### АТЭІСТ

БРЫГАДЗІР напамінае калгасьніка: — Янка Лявонавіч, ты чаму ўчора так запіўся, што і на работу ня прыйшоў?

ЯНКА: — А ты на мітынгу сам казаў — Бога няма і душы няма, а чалавек канчаецца як быдла. — А якраз у суседа кабыла здохла, дык мы зь ім так крышку і ...

БРЫГАДЗІР: — Бачыш, — савецкая навука даказала, што Бога няма! Але нашая практыка даказвае, што трэба так жыць, як-бы Бог быў, бо інакш трапіш у турму.

ЯНКА: — Цікава! Дык хто-ж у вас разумнейшы, навука ці практыка?

# СЬВЕЖАЯ МАГІЛА



Дня 23. V. 1967 ў шпіталі сьв. Аліжбеты ў Чыкаго адыйшоў у вечнасьць у 78 годзе свайго жыцьця дарагі наш друг сьв. памяці МІКОЛА ДЗЯМІДАЎ. Паніхіду адслужылі ў сераду вечарам у Паграбальным Доме «Музыка» ў прысутнасьці вялікай грамады Беларусаў і інш. А ў чацьвер 25. V. ўрачыста адслужылі сьв. Літургію з адпеваньнем у царкве Хрыста Спаса і пахавалі на могілках сьв. Вайцеха, дзе ўжо нямала ляжыць нашых Беларусаў. Пасьле паховін усе прысутныя сабраліся ў парахвіяльнай салі Беларускай Царквы на пачастунак і ўшанаваньне памяці Пакойнага.

Вяртаючыся да хаты, кожны ў сваіх думках успамінаў галоўныя мамэнты з жыцьця Пакойнага, асабліва ягоную дзейнасьць тут у Чыкаго на грамадзкай і рэлігійнай ніве. У гэтым-жа годзе сьв. памяці Мікола з другімі быў ініцыятарам у арганізаваньні Белар. Царквы Хрыста Спаса. Іхні кантакт з а. Іоаннам Тарасэвічам і з аббатам Амброжым і тадышнім Кардыналам у Чыкаго Стрыч быў укаранаваны арганізаваньнем парахвіі для Беларусаў Чыкага. Пачаткі ня былі лёгкія і бяз турбот.

За гэтую ініцыятыву і стараннасьць мы будзем удзячнымі дарагому сьв. пам. Міколе і будзем успамінаць Яго, як аднаго з заснавальнікаў Царквы, у нашых малітвах.

У апошнія гады, ня гледзячы на свой век і стан здароўя, Ён прысутнічаў на Божых Службах ня толькі ў нядзелі і Сьвяткі, але і ў будні дні. Ён шчыра працаваў і маліўся за еднасьць Беларускага Народу і за злучэньне ўсіх у адно, што зьяўляецца мэтай усіх нас тут пры Царкве Хрыста Спаса. Ён павінен быць для нас прыкладам вернага змагара за лепшую долю свайго Народу. Ён гэтым і для гэтага жыў.

Хаця сьв. Памяці Мікола Дзямідаў адыйшоў ад нас целам, аднак сваім духам будзе заўсёды з намі. Выражаем Яго Дарагой Жонцы нашыя найшчырэйшыя спачуваньні!

Пры маленьнях у Доме Паграбальным і ў Царкве ўдзельнічалі аа. Тарасэвіч і а. Мартыновіч з Белар. Аўтакеф. Царквы. Акрамя Беларусаў былі Украінцы і Летувісы.

Да гэтага дадаём, што сьв. пам. генэрал Мікола Дзямідаў браў удзел пры арганізацыі і заснаваньні Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы і нейкі час лічыўся сакратаром пры япіскапе Сяргею. — ВЕЧНАЯ ПАМЯЦЬ!

**Парахвянін Н. Н.**

---

## МОЙ СКАРБ

*Як кожны ў маёй старане,*
*я багацце нязмернае маю.*
*Ды не ў грошах, не ў золаце — не!*
*У любові да роднага краю.*

*Гэты скарб не схаваны ў зямлі,*
*не закуты ў іржавай скарбонцы*
*ён вясною з адталай раллі*
*узнімаецца да сонца.*

*Не кладзецца ў чырвонцах на стол*
*і працэнтаў мой скарб не прыносіць —*
*ён цяжкімі пладамі*
*у дол,*
*рэха коцячы, грукае ўвосень.*

*Яго ўбачыш у кожным кутку*
*неабсяжнай маёй Беларусі.*
*Рады я дружбаку, земляку,*
*з ім пароўну багаццем дзялюся.*

*Беларусь!*
*Узараную,*
*дымную,*
*у лістоце бяроз і дубоў —*
*абдымаю цябе,*
*неабдымную,*
*ты — багацце маё і любоў.*

*Шмат яшчэ пуцявін мне прайсці.*
*Будуць радасці,*
*будуць няўдачы.*
*Але што ні спаткаю ў жыцці,*
*я ніколі*
*свой скарб*
*не растрачу.*

Артур Вольскі

(З зборніку вершаў «Далёкія і блізкія прычалы», Менск 1962).

---

Артур Вольскі нарадзіўся ў 1924 г. у горадзе Дзяржынску на Меншчыне. Скончыў Віцебскае мастацкае вучылішча. Найбольш ведамы як аўтар шматлікіх вершаў для дзяцей.

# УВАГА!

У Выдавецтве можна купіць твор Вінцука Адважнага — паэма «Князь і лапаць». На 250-ці старонках, у літаратурнай казачнай форме, аўтар апісвае лёс сям'і эмігранта, якая паддаўшыся камуністычнай агітацыі, пастанавіла вярнуцца на падсавецкую Беларусь. У кнізе выкарыстаныя глыбокія назіраньні й перажываньні аўтара з часоў ягонага жыцьця ў савецкім зьняволеньні. Ад першых чытачоў свайго новага твору аўтар атрымаў ужо шмат вельмі прыхільных водгукаў.

Адрас Выдавецтва:

Marian House
Holden Avenue, London, N. 12
Gr. Britain
Rev. J. Hermanovič











У аўтара можна купіць в. паважную і цікавую кніжку «КІТАЙ—СІБІР—МАСКВА». Гэтая кніжка разам з кн. «Князь і Лапаць» — для чытачоў «Божым Шляхам» па зьніжанай цане — 3 даляры, або 1 фунт, або 10 фр. фр. ці 10 ням. марак

«Кітай—Сібір—Масква» пераложана і выдана ў Лёндане ў фірме «Veritas» зь беларускага на польскую мову і ў Гішпаніі перакладаецца на гішпанскую.

Тымчасам можна купіць у аўтара з польскім тэкстам у Рэдакцыі «Божым Шляхам» па зьніжанай цане 15 шыл., або 3,25 дал. Або у выдавецтве «Veritas»: 4-8, Praed Mews, London, W. 2. England. Цана 21 шыл., або 3,50 дал.

## ЗВАРОТ ДА ПАВАЖАНЫХ ЧЫТАЧОЎ УКРАІНЦАЎ

*

*Прыйшла ведамасьць такая —*
*(Гэта вестка залатая!) —*
*«Шлях» чытаюць і чужынцы,*
*А між імі — Украінцы.*
*Дык даю ім у «Звароце»*
*Прывітаньне ў сэрца ўзьлёце.*

*Беларусь і Украіна!*
*Ужо выбіла гадзіна,*
*Каб два нашыя народы*
*Выйшлі ў поўны круг свабоды!*
*Як браты, як сёстры дзьве.*

*Вачэй двое ў — галаве.*
*Бог парадак даў такі —*
*Адно сэрца, дзьве рукі.*
*Каб у горы і ў прыгодзе*
*Мы жылі у поўнай згодзе!*

*Прыйдзе шчасьце, дзякуй Богу!*
*Толькі-ж маем засьцярогу,*
*Каб і Вы таксама з намі*
*Былі нашымі братамі!*

*Бо ўжо з Заходу, з Усходу,*
*Каля нашага гароду,*
*«Браты» іншыя снуюцца,*
*Што з даўных часоў імкнуцца —*
*Для сваей сьвятой карысьці —*
*Беларусь дарэшты згрызьці!..*

*

*Як на небе сонца ясна,*
*Так і воля наша ўласна!*
*А няволя, як нуда —*
*Векавечная бяда:*
*Цьма ў вачах і рукі скуты,*
*На нагах — зялезны путы...*

*Беларусь і Украіна!*
*Мы — радня — сям'я адзіна:*
*Разам мы — пад вокам Божым —*
*Незалежнасьць здабыць можам.*

*Толькі ў дружбе і ў саюзе,*
*Толькі ў помачы, ў абслузе —*
*У суседзтве і ў сваяцтве —*
*У адным і ў цесным брацтве —*
*Мы і Вы! — Інакш ніколі*
*Не даб'ёмся вольнай волі:*

*Без саюзу і бяз згоды*
*Не ўбачым мы свабоды!*

*Менск і Кіеў — мы спрадвеку*
*Мелі Божую апеку:*
*З сабой рэдка ваявалі,*
*А больш дружна памагалі.*

*Нашы землі — сёстры дзьве:*
*УКРАІНА — хай жыве!!!*

а. Язэп Гэрмановіч

ЗЬМЕСТ:



Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14.